# Рыгор Барадулін

## Et orbi omni / І свету ўсяму

Мінск
Рымска-Каталіцкая парафія
Святога Сымона і Святой Алены
2016

УДК 821.161.3-1
ББК 84 (Беи)-5
Б24

Укладальнікі
*Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк –*
*кандыдат гістарычных навук, магістр тэалогіі;*
*Ала Сакалоўская –*
*кандыдат філалагічных навук, дацэнт*

**Барадулін Рыгор**
Б24 **Et orbi omni / I свету ўсяму:** Рыгор Барадулін. – Мн.: Рым.-Катал. парафія Св. Сымона і Св. Алены, 2016. – 680 с. іл.

У кнізе «Et orbi omni / I свету ўсяму» вершы народнага паэта Беларусі, наміnанта на Нобелеўскую прэмію (2006 г.) Рыгора Барадуліна ў перакладах на трыццаць моў. Вядомыя майстры слова Заходняй і Усходняй Еўропы, Амерыкі, краін былога Савецкага Саюза, Азіі, Усходу знаёмяць свайго чытача з лепшымі творамі паэта.

The book “Et orbi omni/ I свету ўсяму” contains the poetry by People’s Poet of Belarus Ryhor Baradulin translated into 30 languages of the world. He was nominated for a Nobel Prize for literature in 2006 Well-known literary masters of Eastern and Western Europe, America, countries of the former Soviet Union, Asia and the East familiarize the readership with the poet’s best works.

**ISBN 978-985-6652-54-0**

# Вершы-ластаўкі вяртаюцца дамоў...

«Як мне, малому, хацелася ў свет!
Як мне хацелася вырвацца з хаты!
Я задзіраў галаву, каб хвастаты
Бачыць хоць след
Незнаёмых камет», – пісаў паэт.

Мары дзяцінства... Яны, такія, здавалася, недасяжныя, здзейсніліся. Ён не толькі пабачыў дзясяткі краін. Ягоныя вершы, перакладзеныя як не на сорак моў, расказалі свету пра яго любімую Беларусь, ягоную радзімую Вушаччыну, бацькаў вяз каля роднай хаты, сад, пасаджаны мамай...

У літаратуру Рыгор Барадулін увайшоў у сямнаццацігадовым узросце – у 1952 г.

Талент юнага паэта быў заўважаны не толькі беларускім чытачом. У 50–70-я гады 20-га стагоддзя ў часопісах, газетах, зборніках, анталогіях друкуюцца пераклады вершаў Рыгора Барадуліна на латышскую, рускую, англійскую, балгарскую, нямецкую мовы.

З кожным годам геаграфія перакладаў вершаў паэта пашыраецца.

Цяпер яго творы чытаюць у Заходняй Еўропе – на англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай, італьянскай, венгерскай, румынскай, шведскай мовах. У краінах Балтыі – на літоўскай, латышскай, эстонскай мовах. У славянскіх краінах Цэнтральнай Еўропы – на польскай, чэшскай, славацкай, балгарскай мовах. На многіх мовах краін былога СССР – рускай, украінскай, удмурцкай, чувашскай, татарскай, грузінскай, малдаўскай, таджыкскай, кіргізскай.

Ёсць пераклады на ўсходнія і нават экзатычныя мовы – хіндзі, японскую, курдскую, карацінскую, цыганскую і інш.

Кніга «Et orbi omni / I свету ўсяму» – пасланне паэта народам свету. У ёй некалькі соцень вершаў у перакладзе на трыццаць моў.

Падчас працы над гэтай кнігай узніклі пэўныя цяжкасці. На жаль, не ўсе пераклады ўдалося адшукаць. З распадам СССР па сутнасці перарваліся кантакты паміж бібліятэкамі былых саюзных рэспублік, а цяпер самастойных дзяржаў. Парушаны ўзаемасувязі з бібліятэкамі Масквы і Пецярбурга.

Таму мы не знайшлі пераклады вершаў на казахскую, армянскую, азербайджанскую, асецінскую, туркменскую, узбекскую мовы. Сталі недаступныя анталогіі беларускай паэзіі на мангольскай, тамільскай, ка́нада мовах.

Мы вельмі ўдзячныя маскоўскай паэтэсе Людміле Серастанавай – жонцы вядомага перакладчыка беларускай літаратуры на англійскую мову Уолтэр Мэя. Яна адшукала ў Маскве ў Бібліятэцы замежнай літаратуры Анталогію беларускай паэзіі на мове хіндзі (1985 г.). У ёй дзевяць вершаў Рыгора Барадуліна – перакладчык Бар’ям Сінгх.

Вялікая падзяка паэту Анатолю Вярцінскаму, які даў для зборніка копіі перакладаў вершаў Рыгора Барадуліна на румынскую мову (Анталогія беларускай паэзіі на румынскай мове, 1985 г.).

Перыяд 70–80-х гадоў быў вельмі багаты на пераклады вершаў. Выходзяць дзясяткі зборнікаў, пераклады ў перыядычных выданнях. Потым наступіла пятнаццацігадовае зацішша.

Пасля 2005 г. – выхаду ў свет паэтычнага зборніка «Ксты / Ksty», за які паэт ў 2006 г. быў вылучаны на Нобелеўскую прэмію,– карціна паступова мяняецца.

Выдадзены зборнікі перакладаў вершаў на чэшскую і рускую мовы.

Цікавая гісторыя зборніка перакладаў вершаў Рыгора Барадуліна на японскую мову.

У 2006 годзе ў Мінску быў прафесар Шунічы Ямашыта – кіраўнік Аддзела малекулярнай медыцыны Інстытута захворванняў, выклiканых атамнай бамбардзіроўкай, Вышэйшай школы біямедыцынскіх навук Універсітэта г. Нагасакі.

Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк падарыў прафесару два двухмоўныя зборнікі вершаў Рыгора Барадуліна – зборнік «Ксты / Ksty» і зборнік «To Be! / Быць!». Апошні выдадзены з нагоды дваццацігоддзя Чарнобыльскай катастрофы. Прафесар Шунічы Ямашыта быў у захапленні ад вершаў і сказаў, што іх абавязкова трэба перакласці на японскую мову. І сваё абяцанне ён стрымаў. У 2007 г. у Японіі выйшла кніга вершаў Рыгора Барадуліна па-японску «Малітва ветру». Перакладчык – Кашына Гоу. Ён нарадзіўся ў 1972 годзе на Хакайда. Там жа скончыў філалагічны факультэт Універсітэта і аспірантуру. Славіст, валодае беларускай мовай, піша вершы. З 2001 г. па 2003 г. працаваў у пасольстве Японіі ў Беларусі. У зборніку 61 верш. Пераклад зроблены з мовы арыгіналу. Кніга цудоўна аформлена, з традыцыйным японскім каларытам. Выдадзена на ахвяраванні вернікаў-католікаў Кафедральнага сабора Уракамі ў г. Нагасакі. Электронны набор вершаў на японскай мове для нашай кнігі зрабіла спадарыня Ёсіко Огава, за што мы ёй вельмі ўдзячныя.

У кнізе «Et orbi omni» чытач знойдзе шмат перакладаў сябра Рыгора Барадуліна Хізры Асадулаева на карацінскую мову – адну з моў Дагестана.

Вершы ў зборніку падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці – ад перакладаў першага верша – да апошняга «Мальба», напісанага 22 лютага 2014 года. Такі парадак падачы вершаў дае магчымасць назіраць, як сталее паэт, як з юнага ператвараецца ў майстра, творцу.

З 1961 года і да апошніх дзён сам Рыгор Барадулін знаёміць Беларусь з паэтамі краін свету. Сотні, калі не тысяча, перакладаў з дзясяткаў моў: тво-

ры У. Шэкспіра, Мальера Д. Байрана, А. Міцкевіча, Т. Шаўчэнкі, Р. Бёрнса, А. Рэмбо, Д. Кітса, Р. Кіплінга, Х. Хіменэса, Я. Райніса, С. Ясеніна і шмат іншых. Рабіў пераклады паэзіі Усходу і Каўказа.

Творчасць паэта была высока ацэнена дзяржавай і грамадствам. Рыгор Барадулін – народны паэт Беларусі, Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы і прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра. Ганаровы доктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ганаровы грамадзянін Вушацкага раёна. Ганаровы віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра. У складзе ўрадавай дэлегацыі прымаў ўдзел у рабоце XXXIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (1984). Узнагароджаны ордэнамі «Дружбы народаў» і «Знак Пашаны», медалём Францыска Скарыны. За пераклады з латышскай мовы ўганараваны ордэнам Трох Зорак – найвышэйшай узнагародай Латвіі.

24 чэрвеня 2004 г. меў аўдыенцыю ў Папы Рымскага Яна Паўла II.

Сумна, што паэт адышоў у вечнасць, не дажыў да выхаду гэтай кнігі.

Выдавецтва дзякуе перакладчыкам і іх нашчадкам, аўтарам фотаздымкаў, супрацоўнікам Міжнароднага міжбібліятэчнага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, выкладчыкам Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, а таксама Уладзіміру Якавішыну, Марыі Віктаравай, Людміле Шпак за шчырую дапамогу ў выданні гэтай кнігі.

...«Ластаўкамі, якія злёталі за мора і навучыліся шчабятаць на мовах свету, вярнуліся мае вершы, як пад родную страху, пад вокладку гэтае кнігі», – напісаў Рыгор Барадулін, азнаёміўшыся з макетам кнігі. Прасіў, каб гэтыя словы былі ў ёй.

*Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк,*
*Ала Сакалоўская*

# Паэтычная планета Рыгора Барадуліна

Маленькі Прынц з казкі Антуана дэ Сент-Экзюпёры валодаў усяго толькі адным невялічкім астэроідам, але пільна яго даглядаў: праполваў дрэвы, чысціў вулкан, клапаціўся пра наравістую Ружу.

Паэт Рыгор Барадулін, што нарадзіўся на астэроідзе Вушаччына, меў гонар авалодаць планетай Зямля, бо думаў пра яе няспынна, як і пра сваю малую Радзіму, называў Зямлю парушынкай у воку Госпада:

Зямля –
Парушынка ў Гасподнім воку.
І колькі трывацьме Госпад яе,
Не дадзена ведаць ані прароку,
Ні вечніне,
Якой трывання стае.
А мы парушынку варушым, нявечым,
Каб Збаўцу яшчэ непаменей было,
Каб пра сябе нагадаць хоць нечым,
Перш чым глыне нас немае тло.

І з недасяжнага нам далёку
Нябачнасць бачыць,
Як час бяжыць...
Як парушынка ў балючым Воку
Дрыжыць...

Паэт апяваў Іярдан і Вушачку, вёў размовы з Усявышнім і нястомна пераствараў, пераствараў, пераствараў з іншых моваў на беларускую. Паэзію, драматургію. Пераклады такіх вершаў, як «Калі» Рэд'ярда Кіплінга або «П'яны карабель» Арцюра Рэмбо можна лічыць сапраўдным паэтычным подзвігам, бо гэтыя творы лічыліся неперакладальнымі дзеля

іх моўных нюансаў, шматрэгістравасці. Паэтычная інтуіцыя падказвала беларускаму перастваральніку тыя ідэальныя прыёмы перастварэння, якія не знайшлі б і носьбіты замежных моў. Персанажы мальераўскіх п'ес, якія перастварыў для тэатра Рыгор Барадулін, размаўляюць па-беларуску сакаўней і каларытней, чымся па-французску.

Пераклады з дзясяткаў моў народаў свету – такі актыў Рыгора Барадуліна перад літаратурнай планетай Зямля.

Літаратурная планета адказала паэту перакладамі на сорак пяць моў і пры гэтым, безумоўна, засталася яму абавязаная. Але і гэтая даніна памяці паэта вартая высокай ацэнкі, асэнсавання і публікацыі. Бо, апроч усяго іншага, паэзія Рыгора Барадуліна таксама надзвычай цяжкая для перастварэння.

Не будучы перакладазнаўцам, я не прэтэндую на аналіз асаблівасцей мастацкага перастварэння твораў Рыгора Барадуліна на замежныя мовы, але ацаню перадусім выданне яго перакладаў як літаратурную падзею найвышэйшай зорнай велічыні.

Спроба шырокай рэпрэзентацыі паэтычнай творчасці Рыгора Барадуліна ўжо рабілася пры англамоўным выданні зборніка «Ксты», намінаванага на Нобелеўскую прэмію. Зборнік атрымаўся. Горка чуць думку пра тое, што паэт не атрымаў прэміі з прычыны недастатковага ўзроўню перастварэння.



Над зборнікам «Ксты» шчыравалі мэтры перакладу і іх таленавітыя вучні, носьбіты абедзвюх моў. Эксперымент даў плён. Эксперты з ЗША і Велікабрытаніі, што рэдагавалі тэкст, былі ў прыемным шоку. Іх уразіла і якасць паэзіі беларускага майстра, што не здрадзіў традыцыі класічнага верша, і высокая якасць перакладу. Стэрэатыпы былі парушаны. Выданне засведчыла, што на Беларусі паўстала новая школа перакладу, якая будзе, згодна з праектам М. Багдановіча,

вяртаць беларускую літаратуру ў агульнаеўрапейскае ўлонне.

Пры перакладзе, магчыма, згубіліся некаторыя тропы і моўныя аздобы. Тое, што захаваецца, мяркую, здзівіць паэтычную Еўропу, якая забылася на тое, чым ёсць рыфма і метр. Нават калі і пабляклі пры перакладзе тэкста яго моўныя дэкарацыі, дык больш выразна акрэсліўся плён паэтавай думкі і веры. Ён, гэты плён, увабраў у сябе і беларускі боль, і рэлігійны досвед, але, што важна для далейшага лёсу кнігі, ён шырэйшы за нацыянальныя або канфесійныя межы.

Што да прэміі, дык прысуджэнне Нобеля ёсць як сумай намагання ўсёй нацыі і яе інтэлектуальных сіл, сведчаннем яе кансалідацыі, так і сумай суб'ектыўных і аб'ектыўных абставінаў, якія не заўсёды залежаць ад асобы творцы і ягоных тэкстаў. Так павялося. А цяпер ужо нічога не выправіць, бо Рыгора Іванавіча няма, а прэмія не прысуджаецца пасмяротна.

І сёння мы ацэньваем як сусветна значную падзею выданне «Et orbi omni», адрасаванае шматмоўнай супольнасці. Да яго выдання, як і да выдання зборніка «Ксты» ды іншых кніг паэта спрычыніўся Чырвоны Касцёл і перадусім ксёндз пробашч Уладзіслаў Завальнюк і складальнік, блізкі паэту чалавек Ала Станіславаўна Сакалоўская.

Ад задумы выдання да яе рэалізацыі бывае надзвычай складаны шлях, і гэта якраз той выпадак. Надзвычай цяжка арганізаваць у суладны хор галасы на розных мовах, інакш кажучы, прадумаць канцэпцыю, кампазіцыю, структуру зборніка. Я не кажу ўжо пра тую карпатлівую працу, што звязана са зборам матэрыялу, з імкненнем не забыць, не абмінуць аніводнага іншамоўнага перастварэння вершаў паэта, бо кожнае з іх – літаратурная падзея. А тэхнічныя складанасці, звязаныя з багаццем моўнай графікі, шрыфтаў?

Вельмі слушна быў абраны храналагічны парадак размяшчэння вершаў. Ён даводзіць асаблівасці твор-

чага сталення паэта і пачатку, і канца яго вандроўкі, якую здзейсніў ён, бы Маленькі Прынц, па планеце Зямля.

Магчыма, ніхто з даследчыкаў творчасці Рыгора Барадуліна не звярнуў увагі на штосьці дзіцячае, наіўнапрастадушнае, што прысутнічае як у першых, так і ў апошніх, па-філасофску насычаных яго творах.

На самым пачатку гэтай кнігі англічанін, таджык, балгарын, літовец, рускі, украінец вельмі хутка натрапіць на верш «Бацьку», вядомы кожнаму беларускаму школьніку або студэнту. І не будзе чытача, у якога балюча не сціснулася б сэрца пры судакрананні з жыццёвай драмай лірычнага героя.

Калі б аўтар прадмовы пачаў пералічваць усіх перастваральнікаў твораў Рыгора Барадуліна, спіс перавысіў бы памер прадмовы. Але ў адным я ўпэўнены – гэта сябры Рыгора Іванавіча, духоўна блізкія да яго людзі. І яшчэ ў адным я перакананы: зборнік робіць нашу планету больш утульнай, добрай, блізкай да Бога, бо гэта планета ўбачаная вачыма паэта і яго сяброў-перакладчыкаў.

*Пятро Васючэнка*

Паэзія ласкай карае,
Радкі захаплення таму
Нясе беларускаму краю
І свету ўсяму.

*Рыгор Барадулін*

Poetry punishes with kindness,
Therefore it carries lines of rapture
To the fair Land of Belarus,
And the whole world to capture.

*Пераклад Алены Таболіч*

## ПЕРШЫ СНЕГ

У абшары навакольным
Над папарам, лугам, полем
Снег тчэ мяккі змрок.
Кожную сцяжынку тую
Кружыць, туліць і цалуе
Весялун-вятрок.

Дрэвы ў футры і карункі –
Шчодрыя зімы дарункі
Ахінаюць стан.
Галавой кіўнуў гулліва
Вяз таполі сарамлівай,
Маладзейшым стаў.

І абрусам вышываным
Засцілаюцца паляны,
Далягляд і дол.
На вяселле зімкі жвавай
З дзедам грозным і ласкавым,
На багаты стол.

Дзесьці йдуць маладажоны
Сцежкай, пухам вылажонай,
Шчасныя ўдваіх.
Эх, як хораша, ўрачыста,
Як душы парывы чысты
Ў час хвілін такіх!

*1952*

## LA PRIMA NEVE

Son inondati i dintorni
Del buio morbido tessuto
        Dalla neve
Il venticello-allegrone
Ad abbracciare le stradine
        Si diverte

L'inverno generosamente
Veste i boschi in pelliccia
        E merletto
Alla betulla strizza l'occhio
L'olmo di colpo diventando
        Giovanotto

Sono coperte le colline
E le vallate con tovaglie
        Ricamate
Per le nozze dell'inverno e
La prima neve, per la cena
        Abbondante

Per una strada addobbata
Belli piano vanno i sposi
        Abbracciati
Che puri, che solenni sono
In minuti tali gli impetti
        Elevati!

***

Чуйна спіць наваколле.
Поўнач
Долы абняла.
Поўня лье з даёнкі поўнай
Малако святла...

*1954*

***

The ambit has a light sleep.
The midnight
Has embraced the vale.
The Moon is pouring milky light
From the filled-to-the-brim pail.

На англійскую пераклала Алена Таболіч

***

Dormono i dintorni
Mezzanotte
Le valli abbracciò.
Il latte della luce dal secchio pieno
La luna diffondò...



*Іван Рыгоравіч і Куліна Андрэеўна Барадуліны. 30-я гады*



*Паэту тры гады*



*З мамай Кулінай. 1958 г.*

## НА АЗЯРЫНАХ

Палаюць вогнішчы азёр –
Ад іх агню смялей блакіту.
І вечар – электраманцёр
Нябеснага энергазбыту –
Уключыць зоры.
Будзе ноч
Асакавольтная
Цадзіцца.
І сэрца рушыць басанож,
Дзе пахне раніцай ігліца.

*1955*

## МОЛОДЫЕ СТИХИ

Костры лазурные озёр
Горят среди лесов и жита,
И вечер – электромонтер
Небесного энергосбыта –
Включает звёзды.
Будет ночь
Осоковольтная светиться.
И сердце босиком не прочь
Навстречу зорьке
В путь пуститься.

## AUX BORDS DES LACS

Les bûchers des lacs flamboient –
Le bleu du ciel en devient insolent.
L’électricien du réseau céleste le soir
Branchera les rayons du soleil couchant.
Et la nuit
De haut voltage
Sera filtrée par les roseaux.
Et le coeur ira nu-pieds
Vers les rivages
Où les aiguilles sentent l’aurore.

На французскую пераклала Ніна Дзябольская



*«Касцёл ацалеў для вякоў...». 1955 г.*



*Сцяганосец. 1958 г.*



*Падлётку хочацца ў палёт! 1957 г.*

# ЛІСТ З ДОМУ

Бурты кладуцца, як барханы.
Лапатам не даём астыць.
Ды што за шум?..
Прыйшлі лісты,
Лісты ад родных, ад каханых.

І мне ж тут нешта быць павінна...
Матулін почырк пазнаю.
І піша пра бяду сваю,
Пра радасць і пра ўсе навіны:

«Сусед наш справіў наваселле.
Ну а ў бары па верасу
Грыбоў – хоць закладай касу,
І ўжо арэхі палыселі...

Вуголле з печы ўранні скача,
Кот мыцца на вакне пачне, –
І верыцца, што ты ка мне
Паспееш на пірог гарачы».

Я сёмы раз, забыўшы стому,
Чытаю гэты ліст,
нібы
Я на Вушаччыне пабыў,
Пагутарыў з усімі дома...

І зноўку зерне з-пад лапаты
Уверх ляціць ва ўсе бакі
І падае. (А так шпакі
На луг садзяцца там, за хатай...).

*1956*

## A LETTER FROM HOME

The seeds are heaped like dunes of sand.
The spades are not given a rest.
What is this noise?
Letters have come,
Letters from relatives, from homeland.

There's one for me – oh, lucky boy...
My Mummy's writing is clear and brief,
She writes about her sorrow and grief,
About the village news, about her joy.

"To a new house my neighbour moved,
In the pine forest, about the heather –
A lot of mushrooms in any weather.
The thatches haven't been improved".

"The coals out of the stove will fly,
The cat sits washing on the sill,
I think that you, of course you will
Hurry and taste my fresh-baked pie".

I am not tired to read these lines,
I look them through for many times,
As if I'd seen Vushacha climes
And talked to relatives of mine.

And then again seeds from the spade
Fly up and scatter all around,
And fall then down thick on the ground,
(Like starlings settling in the shade).

***

Світанняў я з табой не сустракаў,
Не рассякаў вяслом азёрнай хвалі.
І толькі шморгаў носам аб рукаў,
Калі цябе да дошкі выклікалі.

Здавалася, што бачыць увесь клас,
Калі ў твой бок глядзеў я ўнезнароку.
Каб аб сабе напомніць лішні раз,
Па пяць заўваг я зарабляў на ўроку.

Што стала мне ты нейкаю другой,
Баяўся і сабе прызнацца ў гэтым.
Ды толькі ўсе чамусьці нас з табой
На кніжках плюсавалі без сакрэту.

Ну, а калі кілометры за два
Дамоў з аднавяскоўцамі ішла ты,
Як крыўдна мне было, як я злаваў,
Што каля самай школы наша хата.

Гады прайшлі. У кожнага свой шлях.
І апынуўся я не ў роднай хаце.
...З усмешкай палахлівай на губах
Я сніў цябе ў студэнцкім інтэрнаце.

І вось нарэшце на лістах шасці
Прызнаўся я табе ў сваім каханні.
З трывогай «заказное» апусціў
І атрымаў адказ – тваё маўчанне.

Дамоў прыехаў.
Кажуць, трэці дзень
Грыміць тваё вяселле (я ж не веру).
Вянок з гароху хочуць мне надзець
Сябры, як адстаўному кавалеру.

Хай надзяюць – мне невялікі страх,
Я з гора пацягну з кілішка троху.
Дык пасядзім з табою мы ў вянках,
Твой з красак палявых, а мой –
з гароху.

...Хай снег гадоў асядзе ў валасах,
Хай будзе мне хоць пяць разоў па дваццаць –
Усмешкай палахлівай на губах
Ты школьніцай мне будзеш усміхацца...

*1957*

***

I did not welcome those dewy dawns with you,
The waves of lakes I did not cleave with oars.
Against my sleeve I only sniffed and knew,
When called in front of class, not any cause.

It seemed to me that all the children saw
Me steal a glance, a risk to lessen,
Just to remind of me – and more and more.
I was rebuked for that five times a lesson.

I was afraid then to admit, confess
That you completely changed your aims.
But all in class. (Can you now guess?)
Drew plusses openly 'tween our names.

And when you walked to your far-off home
With village children. (T'was two miles away).
I felt offended, angry (that's a syndrome
Of love) that our house was nearby. Oh nay!

Years have passed. All have their own way.
For the big city Minsk I left my home.
With a shy smile of mine, day after day,
I saw you in my dreams at our dorm.

And I decided then I'll tell you better
About my feelings in a long, long letter.
Full of concern, I dropped my poor letter,
But got no answer – an unhappy getter.

Soon I came home and saw, nearly dead,
Your wedding. My friends had a desire
To put a wreath of peas then on my head,
'Cause I was unlucky her to admire.

Let them put on. Strange! – I have no fear
I'll have a drop of wine in my deep grief,
And we shall sit and talk with you, my dear,
With wreaths of flowers and blades of pea.

Even if snow with years covers your hair,
Even if I am five times older,
You will always smile at me, my dear,
With your fainter smile, not yet cold.

***

Ich sah mit Dir nie einen Sonnenaufgang
Und hatte keine Möglichkeit, auch Boot damals zu fahren.
Ich musste nur die Nase mit dem Ärmel wischen,
Wenn alle Lehrer Dich oft an die Tafel riefen.

Es schien mir, dass die ganze Klasse blickte,
Wenn ich in Deiner Richtung zufällig schielte.
Im Unterricht erteilte man mir fünf Verweise,
So ungehorsam war ich und doch so weise.

Ich gestand mir selber nicht immer ein,
Dass ich Dich früher ganz anders kannte.
Man hat, ich weiß es nicht warum, uns zwei
Mit einem schönen guten Plus bezeichnet.

Und wenn Du ungefähr zwei Kilometer lang
Nach Haus mit deinen Freunden gehen musstest,
Ergärte es mich und tat mir leid,
Dass ich doch keinen Ausweg daraus wusste.

Seinen Weg geht jeder. Die Jahre sind vorbei.
Später bin ich nicht ins Elternhaus geraten.
Dich sah ich oft im Traum im Studentenheim
Mit ganz scheuem Lächeln auf den Lippen.

Endlich musste ich Dir auf sechs Seiten
Meine einstige Liebeserklärung schreiben.
Sorgenvoll warf ich für Dich den Eilbrief ein
Und erhielt als Antwort nur Dein Schweigen.

Dann kam ich schnell zu Hause an.
Man sagte, seit drei Tagen feiert man
Schon Deine Hochzeit (ich glaubte nicht).
Die Freunde wollen mir, wie einem Kavalier,
Bereits den Erbsenkranz aufsetzen.

Lasst sie den Kranz aufsetzen – keine Angst,
Vor Kummer trinke ich ein Gläschen dann.
Sodann sitzen wir mit unsren Kränzen,
Aus Feldblumen Dein, und mein – aus Erbsen.

Lasst graues Haar den Kopf bedecken,
Wenn ich auch fünfmal zwanzig bin –
Du wirst mich mit ganz scheuem Lächeln
Auf den Lippen als junge Schülerin begrüßen.

## БАЦЬКУ

Не выйшаў ты і ў гэты раз
Мяне спаткаць, паднесці рэчы...
Ля весніц толькі зноў твой вяз
Крануў галінамі за плечы.

Ты мне не падасі рукі,
Глядзіш удаль з-за шкла партрэта...
Ці бачыш, вырас сын які?
Скажы хоць слова для прывета.

А я... чакаў з усіх дарог
Цябе ў сорак чацвёртым... летам.
Калоны ні адной не мог
Я прапусціць з ахапкам кветак.

Хацелася пачуць: «Сынок...»
І крыкнуць радаснае: «Тата!»
Бацькоўскім быў мне кожны крок...
Усё ішлі, ішлі салдаты...

Каторы раз сыходзіў снег...
Дамоў вярталіся суседзі.
Я кожнаму насустрач бег
І чуў кароткае: «Прыедзе...»

Калі ж у крыўдзе мне сябры
Гразіліся падчас бацькамі,
Тады хацелася наўзрыд
Заплакаць шчырымі слязамі.

Не плакаў я – усім на злосць,
Бо ў хаце быў адзін – мужчына.
Не йшоў ты...
Маці маладосць
Глыбей заворвалі маршчыны.

І зараз – еду я здалёк,
Чакаю ўсё – зайду, а маці
Мне скажа: «Пазнаеш, сынок?
Вось наша ўся сямейка ў хаце...»

Паверыць цяжка мне таму,
Што больш не прыйдзеш ты дадому.
А шапку я заўжды здыму
Перад магілай невядомай...

*1958*

## НА БАЩА МИ

Не ми подаде и сега
ръка,
стоиш си във портрета
и ням за моята тъга,
не ми отвръщаш на привета.

Не слезе ти и тоя път
да срещнеш своя син пред къщи,
когато той от дълъг път
в гнездото бащино се връща.

А аз... о, как те чаках аз!
Следях колоните с надежда –
сред летен пек, сред зимен мраз
към всички пътища се вглеждах,

примрял за твойто:
„Сине мой!“,
готов със мойто детско:
„Татко!“
Вървяха прашни строй след строй
и все отиваха нататък...

И колко пъти пада сняг.
– Ще дойде! – като в глухо ехо
ми казваха от своя праг
съседите.
Но за утеха,

Когато в битките по здрач
връстник ме плашеше с бащи си,
на мен ми идваше до плач,
задавяше ме плач ужасен,
но как да плача,
като бях

единствен мъж под твоя покрив.
Мълчеше мама с поглед плах
и бяха миглите ѝ мокри.

Сега пристигам пак от път
и тя щастливо ме прегръща
и пак сълзите ѝ текат,
че сбра ни старата ни къща.

И само ти не ще си с нас
ни днес,
ни утре,
татко мили.

Със снета шапка дълго аз
стоя пред братските могили.

## TĖVUI

Vėl ašarą braukiu slapčia –
Nesušukai: „Sūnus parėjo!“
Tik senas gluosnis ties varčia
Šakom pečius man palytėjo.

Nespaudi rankos man kietai,
Iš nuotraukos žvelgi tu tykiai...
O kaip išaugau, ar matai?
Prabilk, bent žodį pasakyki...

O aš... ak, prisimint sunku...
Man akyse dar kelias dulka...
Tavęs vis laukiu... Sutinku
Su gėlėmis kiekvieną pulką...

Išgirst norėjos man: „Sūnau...“
Ir su džiaugsmu sušukt: „Tėveli!“
Jau, rodosi, atpažinau...
Kariai pro šalį vis, pro šalį...

Praėjo metai, dar kiti...
Sugrįžo į namus kaimynai.
Aš jų vis bėgau pasitikt.
„Sugrįš“– mane drūtai ramino.

Kai draugas po menkų vaidų
Žadėjo tėvui pasiskųsti,
Man taip norėjos tuo metu
Karčiausiom ašarom paplūsti.

Bet neverkiau aš niekada –
Juk vyras mūs troboj tik vienas!
Tu negrįžai...
Mamos veide
Raukšles vagojo liūdnos dienos.

На літоўскую пераклаў Альгімантас Балтакіс

Tikiuos parėjęs – kaip seniau
Mama iškeps bulvinių blynų
Ir tars linksmai: „Matai, sūnau,
Prie stalo vėl visa šeimyna...“

Ir patikėti man kraupu,
Jog tu neperžengsi jau slenksčio...
O ties nežinomu kapu
Aš galvą visados nulenksiu.

## ОТЦУ

Не вышел и на этот раз
Ты из ворот ко мне навстречу,
Лишь твой любимый старый вяз
Мне ветви положил на плечи.

Мне до тебя подать рукой,
Ты смотришь на меня с портрета...
А сын твой стал совсем большой,
Скажи ему слова привета.

Я не спускал с дороги глаз...
Я ждал тебя тем пыльным летом –
Ко всем солдатам
Каждый раз
Навстречу выбегал с букетом.

Хотел услышать я:
«Сынок...» –
И крикнуть радостное:
«Тата!»
Но слышал я лишь стук сапог –
Все мимо шли и шли солдаты.

Военный гром вдали затих...
Домой приехали соседи.
Я бегал к каждому из них
И слышал тихое:
«Приедет...»

Мальчишки в стычках иногда
Грозили строгими отцами,
И как хотелось мне тогда
Заплакать горькими слезами...

Но я напрасных слез не лил.
Я в хате был один мужчина.
Шли дни...
Как борозды, легли
На материнский лоб морщины.

В родимый дом издалека
Приеду вновь,
А мама скажет:
«Ну вот и дождалась сынка,
И собралась семейка наша».

Поверить трудно мне тому,
Что не придешь ты в дом наш тесный.
Я шапку горестно сниму
Перед могилой неизвестной.

## ПАДАР

Падар, ин бор ҳам дарвозаатро
Ту накшоӣ ба истиқболи фарзанд.
Ба китфам монда дастат бо навозиш,
Напурсӣ мисли пеш аз ҳоли фарзанд.

Дарахти саддаи пире ба ҷоят
Паси дарвоза мегардад намудор.
Ниҳода шохи сабзашро ба дӯшам
Ба ман меҳри туро месозад изҳор.

Набошӣ он қадар ҳам дур аз ман,
Авезон аст расми ту ба девор...
Калон гаштаст тифли кӯчаки ту,
Дурудашро қабул бинмо падарвор.

Ду чашмам буд ба роҳи бозгаштат...
Туро ман интизорӣ мекашидам.
Агар бинам ба чое аскареро,
Гул андар даст сӯяш медавидам.

«Писарҷон...» – гуфтанат буд орзӯям,
Ба шодӣ кош мегуфтам: «Падарҷон!»
Вале ғайри садои мӯза бар гӯш
Садое н-омаду мандам
ба армон.

Ниҳоят ҷанг охир гашту бар деҳ
Биёмад аскари ҳамсояи мо.
Ба наздаш рафтаму пурсидам аз ту,
Тасалло дода «меояд» бигуфто.

Даме ки баччагон дар кашмакашҳо
Маро тарсонда буданд аз падарҳо,
Дилам мехост резам ашки талхе,
Ман охир будам он гаҳ зору танҳо.

Вале беҳуда ашки ман намерехт,
Чу дар хона будам марди ягона.
Гузашта рӯзу маҳ,
Дар рӯи модар
Фузуд ожанг наққоши замона.

Биоям хар гаҳе бар хона аз дур,
Бигӯяд модар:
«Омад боз дилбанд.
Бишуд ҷамъ аҳли оила ба як ҷо».
Бигардад модарам як лаҳза хурсанд.

Надорам, эй падарҷон, ҳеҷ бовар,
Ки ту дигар намеоӣ ба хона.
Кулоҳамро ба ҳасрат гирам аз сар,
Ба назди қабрҳои бенишона.

## БАТЬКОВІ

Не вийшов ти у котрий раз
Мене зустріть, піднести речі...
Лиш біля хвіртки знов твій в'яз
Гіллям торкнув мене за плечі.

Ти вже руки не подаси,
Зориш з портрета в далеч світу...
Чи бачиш, як піднявся син?
Скажи хоч слово для привіту.

А я... чекав з усіх доріг
Тебе в сорок четвертім літі.
Колони жодної не міг
Я пропустить із жмутком квіту.

Хотілося почуть: «Синок...»
І крикнуть виміряне: «Тату!»
Здававсь отецьким кожен крок...
Усе ішли, ішли солдати...

Вже вкотре сходив білий сніг...
Верталися домів сусіди.
Я кожному назустріч біг
І чув коротке: «Ще приїде...»

Коли ж у кривді хлопчаки
Мені хвалилися батьками,
Хотілося десь оддалеки
Заплакать щирими сльозами.

Не плакав я – усім на зло,
Бо в хаті був один – мужчина.
Не йшов ти...
Мамине чоло
Вкривало зморщок павутиння.

І зараз – їду з дальніх меж,
Чекаю все – зайду, а мати
Промовить: «Сину, впізнаєш?
Ось наша вся родина в хаті...»

Несила вірити тому,
Що більш не прийдеш ти додому.
А шапку я завжди зніму,
Могилу стрівши невідому.

## ЗІМОВАЕ

Зноў зіма старая
На азёрах селіцца,
Шыбы-льдзіны працірае
Рукавом мяцеліцы.

Высыпае зоры,
Шчодрая, багатая,
Дым слупамі ўгору
Цягне па-над хатамі.

Маладзік на небе,
Воўк галодны шчэрыцца:
Тым акрайцам хлеба
Добра б павячэраў ён.

Снег рыпіць настылы,
Як масніцы новыя.
Як ты сэрцу міла,
Роднае,
зімовае!

*1958*

## WINTER

Grey-haired Winter with a careful hand
Tucks in a blanket on the sleeping land,
But leaves the lake completely bare,
Scoured by the diamond-dusted air.

So on its mirror silver black
The stars look down and the stars look back.
The moon on the mountain, copper-red,
Smells like a loaf of rising bread.

The while the baying wolf complains,
A meal like this would stay his pains,
But hides away in a panic taut
At the rifle crack of a pine-tree knot.

I stand by a birch-tree maiden fair,
In a world so white that we hardly dare,
(Though both to the roots of being yearn)
To dream of the far-off spring’s return.

As, when its green flags are unfurled,
We’ll long for this white enchanted world.

На англійскую пераклаў Джо Уолэйс

## ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЦЕЙ

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою не ачарсцвець,
Каб не страціць святое штосьці.

Не забыць, як падвялы аер
На памытай падлозе пахне.
Як у студню цыбаты асвер
Запускае руку да пахі.

Не забыць сцежкі той, што цябе
На дарогу выводзіла з дому,
Што у хаце там быў рубель
У цане і па курсу старому.

Не забыць, як марозам злым
Клямка пальцы пячэ балюча
І адкуль на стале тваім
Бохан свежага хлеба пахучы.

Помніць свой на іржышчы цень,
Не забыць, як завуць суседа,
Не забыць, як пяе пад дзень
За вясёлым сталом бяседа.

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою ты стаў чысцей
І не страціў святое штосьці.

*1959*

## GYAKRABBAN KÉNE HAZARJÁRNOD

Ritka vendég: az vagy te itt –
gyakrabban kéne hazajárnod,
hogy zsengekorod fényeit
megőrizd ... s azt a tisztaságot.

A súrolt padló jószaga ...
Lám, emlékeid visszalopja,
s a gémes vedres ostota
ifjú crőt ébreszt karodba.

Nicsak, az ösvény múltba fut:
a ház népével felidézni
azt a nincstelen kisfiút,
indul s rubel – az nem jut néki ...

A zord fagyokat se feledd,
a kéz a kallantyúra ráfagy.
S ha otthon szeged kenyered:
illata hazaiként árad.

Árnyékod, tarlón, felkisért;
szomszédok nevét hogyha hallod,
pezsdül a szó s hozza izét
a vigalmaknak: épp, mint akkor ...

Vendégnek lenni nem elég,
gyakrabban kéne hazajárnod –
lelked itt fényesítenéd,
a gyermekkori tiszta lángot.

## BIEŽĀK MĀJĀS VAJAGA BŪT

Biežāk mājās vajaga būt,
Ne kā ciemiņam, ne kā viesim.
Kaut kas svēts lai mums nepazūd,
Lai mums dvēseles neklūst liesas.

Jāatceras, kā kalmes tvīkst,
Izkaisītas uz valgas grīdas,
Kā tev stērbeli dadzis ķer sīksts,
It kā suni kāds uzrīdītu.

Jāatceras tā taciņa, kas
Mūs reiz aizveda prom no mājām.
Kādā vērtē bij rublis tas,
Kursā vecajā rēkinājams?

Kā pie pirkstiem dzelzs rokturis māk
Salā pielipt, lai sāpīgi dzeltu,
Un no kurienes maize nāk,
Kas tik smaržīga galdā celta?

Jāatceras, kā kaimiņu sauc,
Kā tev ēna krīt purmalas sūnās.
Kā murdošā mutulī trauc
Vakarstundā pie azaida runas.

Biežāk mājās vajaga būt,
Ne kā ciemiņam, ne kā viesim.
Kaut kas svēts lai mums nepazūd,
Lai mums dvēseles neklūst liesas.

На латышскую пераклаў Яніс Сірмбардзіс

## REIKIA BŪTI DAŽNIAU NAMUOSE

Reikia būti dažniau namuose,
Ne svečiu reikia jaustis gimtinėj,
Kad šiurkšti netaptų dvasia,
Šventas jausmas liktų krūtinėj.

Neužmiršt, kaip žaliuoja rūta
Ir kaip grindys ajeru kvepia.
Kaip į šulinį svirtis aukšta
Tartum gervė vis kaišioja snapą.

Prisiminti tuos takelius,
Kurie vedė į platų pasaulį.
Ir tuos sunkiai uždirbtus rublius,
Kur motulė įspraudė į saują.

Neužmiršt, kaip žiemos vidury
Pirštai skaudžiai prie velkės prišąla.
Ir iš kur ta duona, kuri
Prieš tave padėta ant stalo.

Neužmiršti kaimynų vardų,
Savo ilgo šešėlio ražienoj.
Ir kaip traukei dainas kartu
Su naktigoniais mėnesienoj.

Reikia būti dažniau namuose,
Ne svečiu reikia jaustis gimtinėj,
Kad skaidresnė taptų dvasia,
Šventas jausmas liktų krūtinėj.

## ДОЛЖНО ДОМА ЧАЩЕ БЫВАТЬ

Должно дома чаще бывать,
Не по случаю, не с налета,
Чтоб душою не убывать,
Не утратить святое что-то.

Не забыл, как на влажном полу
Вязко пахло аиром вялым
И дворнягой тебя за полу
Злой репейник хватал, бывало?

Не забыл колодезный сруб
С журавлем, которым ты вспоен,
И того, сколько в хате рубль
По тогдашнему курсу стоил?

И как в холод щеколдой дверной
Обжигало пальцы болюче,
И откуда берется ржаной
На столе каравай пахучий?

И свою на покосе тень,
И того, как зовут соседа,
Как поет, привечая день,
За веселым столом беседа?

Должно дома чаще бывать,
И не гостем бывать, не с налета,
Чтоб душою не убывать,
Не утратить святое что-то.

## ТРЕБА ДОМА БУВАТИ ЧАСТІШ

Треба дома бувати частіш,
Треба дома не гостем бути,
Щоб не впала душа в крутіж
Бруду, плісняви та отрути.

Не забути, як в'ялий гав'яр
На помитій підлозі пахне,
Як шумить ручаями яр,
Де знайомі всі гнізда й птахи.

Не забути стежок, що колись
На дорогу виводили з дому.
Не забути пісень, що лились
В надвечір'ї, тамуючи втому.

Не забуть, як у стужі злі
Клямка пальці пече студена
І звідкіль на твоїм столі
Появляється хліб щоденно.

Не забути свої жнива,
Тінь, що впала в стерню, як полова,
Не забути, як рано співа
За веселим столом розмова.

Треба дома бувати частіш,
Треба дома не гостем бути,
Щоб не впала душа в крутіж
Бруду, плісняви та отрути.

## СКРЫПАЧЫ

Зноў піла пад пахаю ў чахле,
Бы ў футляры скрыпка.
Пэўна самі
Не згадаюць, хто іх на сяле
Ахрысціў вясёла скрыпачамі.

Так і засталіся скрыпачы
У вясны ды ў лета прымакамі
І не маюць часу адпачыць:
Ходзяць, граюць вострымі смыкамі.

А смыкі ўвап'юцца ў круглякі –
Ніякой не трэба каніфолі,–
Добра ўсмоляць крохкія сукі,
У сярдзітай елкі іх даволі.

Закурыцца – жах зірнуць ажно –
Белай завірухай пілавінне.
Скрыпачы любое бервяно
Абкантуюць, перапалавіняць.

І шчырэе з рання да цямна
Дружная скрыпачая капэла.
Пахне баравінаю сасна,
П'яная асіна – лісцем прэлым.

Выразай цымбалы з той сасны –
Бор застогне, ледзь кручкамі ўдарыш.
З дубу зробіш кадзі – як званы,
Загудуць працяжна на базары.

А з бярозы выгнеш палазы –
Запяюць на стылым снезе сані.
Не дагоняць санак маразы,
Вецер, захлынуўшыся, адстане.

Будзе новы дом стаяць вякі
І звінець над зацішшу аселіц
З лёгкае скрыпачае рукі
Пад смыкамі ветру і мяцеліц.

*1959*

## «СКРИПАЛІ»

Під пахою знов пила в чохлі,
Ніби скрипка у футлярі.
                                        Люди
«Скрипалями» звуть їх на селі –
Не втечеш від прізвиська нікуди.

Так навік зосталися вони
«Скрипалями», літа приймаками.
До самого снігу від весни
Ходять, грають гострими «смичками».

В кругляки впиваються «смички»,
Жодної не треба каніфолі.
Смолять їх живицею сучки,
А живиці в злих ялин доволі.

Куриться – аж подивитись жах –
Білою хуртечею трачиння.
«Скрипалі» колоду на очах
Обкантують, переполовинять.

На бервенах – відпочинку мить,
Потім знову виграє капела.
Яворина, як метал, дзвенить,
Наче грім, гуде сосна весела.

Та цимбали з неї пороби –
Бір застогне, крикне дух безодні.
А як бондарю даси дуби –
То задзвонять, наче дзвони, бодні.

А полоззя із берез нагнеш –
Заспівають на морозі сани.
Вітер доганятиме, та все ж,
Наче дід, захекавшись, відстане.

Новий дім стоятиме віки,
Буде він дзвеніти десь під вечір
З легкої «скрипальської» руки
Під «смичками» білої хуртечі.

# КАЛЫСКА

*Зямля – калыска розуму, але*
*нельга вечна жыць у калысцы.*
*К. Э. Цыялкоўскі*

Неба сінім навісла полагам.
Шчыры дзякуй табе, калыска!
Не ўзрасціла ты семя кволага,
Не прыземліла мары нізка.

Полаг вышыт Шляхамі Млечнымі.
Сонца – забаўка ў аблачынках.
Незямныя нам раны залечвала
Ты – Сусвету ўсяго
пясчынка.

Абгароджаная Карпатамі
І спавітая ў Гімалаі,
Як далонь чалавека, шурпатая,
Чалавеку ты ўжо малая.

І калі мы шляхамі арлінымі
Паляцім да планет насцярожаных, –
Ты, прапахлая кменам і глінаю,
Будзеш зоркаю наддарожнаю.

Нават космас сівы перайначым мы.
Толькі сум па Зямлі агорне:
Там жаўрук кроплю сонца гарачую
Аж да восені студзіць у горле.

Крумкачы па-над борам крумкаюць,
На лугах мурава густая,
Жарабя цягне траўку хрумсткую,
І малога ў бакі хістае.

У туманнасцях ускалмачаных,
Дзе касмічныя завірухі,
Нам прыпомняцца рукі матчыны,
Што люлялі калыску, рукі.

Тыя добрыя рукі першымі
Ад зямлі нас паднялі ўгору:
– Глянь, сыночак, стагі завершаны...
Глянь, плывуць журавы над борам...

*1960*

## THE CRADLE

*Earth is the cradle of human reason, but it's impossible to live for ever in one's cradle.*
*K.E. Tsiolkovsky.*

Heaven's blue is hung like a canopy.
Heartfelt thanks, dear cradle, to you!
You brought up no weakly family,
No high visions did you bring low.

Sky your canopy – sown with galaxies.
Sun – your plaything, clouds – your nurse.
You have healed our spiritual maladies,
You – a speck in the Universe.

Bounded by the wild Carpathians,
Swaddled by Himalayan snows –
Rough as the hands of my labourers –
You no longer can man enclose.

When like eagles we fly, beyond gravity,
To the watchful planets afar,
You, still smelling of clay and caraway,
Then you will gleam, like a guiding star.

Even the grey old cosmos we'll humanise,
Though we'll grieve for the Earth remote,
Where the skylark the sun's hot harmonies
Till late autumn cools in its throat.

Rooks above the forest are bickering,
On the meadows lush grasses grow,
Where the foal will crop them, nickering,
Tottering on the side will go.

In the dim dishevelled mistiness,
Where the cosmic sunstorms flare,
We'll remember mother's business,
Hands that rocked our cradle there.

Those kind hands that once initially
Lifted us from Earth, where we stood:
"Look, my chick, the ricks they're finishing –
See, the cranes fly over the wood!..."

## ЛЮЛКА

*Земята е люлка на разума,*
*но не може да се живее вечно в люлка.*
*К.Е. Циолковски*

Благодарим ти,
небе,
за завесата
над детското ни кошче –
земята,
в която читави и весели
растяхме взрени в небесата.

От млечни пътища извезана,
със слънцето – златна дрънкулка,
ти правеше в своїте съзвездия
песъчинк
нашата кръгла люлка.

Оттук заградена от Карпатите,
оттам – от белите Хималаи,
а при всичките ни симпатии
отесняват, майко, твойте стаи.

Но ако се врежем утре в синята
вис,
отвъд ракетния тътен
с дъха на камиона и на глината,
ти звезда ще ни бъдеш попътна.

А заселим ли се в космоса –
ще ни прескачат нощем сърцата,
сънували утринното докосване
на тревите и на житата.

Звънят по боровете славеи,
врани дават ранни интервюта,
пасе кобилка сред дъбравата
и кончето си по хълбока бута.

Това ще си спомним, комай че ний,
горе под небесната стряха
и,
  разбира се,
                    ръцете майчини,
ръцете, които ни люляха

и които нежно разтреперани,
първи ни откъснаха от земята:
– Гледай, момчето ми,
                                    гледай – жерави,
жерави летят във небесата.

## LOPŠYS

*Žemė – išminties lopšys, bet negalima*
*amžiais pasilikti lopšyje.*
*K. Ciolkovskis*

Kabo melsvas dangus kaip lovatiesė.
Tau, lopšy, privalau padėkoti!
Stiprią gentį, vaitoti nepratusią,
Išugdei ir išmokei svajoti.

Stebim dangų, žvaigždėm sužvilgusį,
Sekam saulės amžiną kelią.
Tu išgydai nežemišką ilgesį,
Žeme mano,
Visatos dulkele.

Apsitverus Karpatais ir Alpėmis,
Apsiklojus sniegu Himalajų,
Tartum delnas šiurkštus, apšerpėjęs,
Šiandien žmogui esi per maža jau.

Kai, žvaigždynų viliojami, tolsime
Ir į kitą planetą atvyksim,–
Tu, pakvipusi kmynais ir molžemiu,
Mums žvaigžde kelia rodė liksi,

Ir, nubraukę ilgesio ašarą,
Prisiminsim gimtąją šalį:
Ten snape vėsina per vasarą
Vieversys karštą saulės lašelį.

Ten, virš girios garsiai kranksėdamas,
Varnų pulkas sukas ir sukas.
Ten, ant kojų laibų svirdinėdamas,
Grumši žolę lankoj kumeliukas.

Ūkuose, erdvėse beribėse,
Kur verpetai kosminiai rangos,
Mums vaidensis trobelė sukrypusi,
Lopšį supančios motinos rankos.

Mus kadaise tos rankos mylimos
Pirmą kartą aukštyn pakylėjo:
– Žiū, sūneli, – žemė kaip kilimas!
Žiū, jau gervės padangėje skrieja!

## ГАҲВОРА

*Замин – гаҳвораи афкор аст,*
*андаруни гаҳвора ҷовидон зистан имкон надорад.*
*К. Циолковский*

Осмон чодари нилист туро,
Ба ту, гаҳвораи ман, бод дуруд,
Ту напарвардӣ каси сусту заиф,
Фикри мо аз ту ҳаме бол кушуд.

Хайма аз Коҳкашонҳо дорӣ,
Ту, Замин, хурдӣ басе дар коин,
Ту давобахши ҳама дарду ғамӣ,
Ба абад ҳусни накӯву рангин.

Бо Ҳимолою ҳаме бо Карпат
Ҳавлии хона битобӣ ба назар,
Чун кафи даст тӯӣ пурхату пай,
Баҳри одам шудаӣ танг дигар.

Бипарем аз бари ту бар кайҳон,
Боз тобӣ ба дилу дидаи мо.
Боз бо сабзаву хору гияҳат
Ту чун истора шавӣ роҳнамо.

Раҳ ба раҳ чун раҳи кайҳон пӯем,
Бо алам ёд кунемат ҳар гоҳ
Мурғи хуршеди ту тобанда бувад,
Гармтар то ба канори даймоҳ.

Аспҳоят бидавад сарсари дашт,
Марғзори ту давоест ба ҷон
Зи бари рӯди равони Белорус
Буруҷи соқсафедат рақсон.

Бирасем ар ба дигар сайёра,
Нафасе даст расад бар мақсуд,
Дасти модар бирасад бар хотир,
Баски гаҳвора биҷунбонида буд.

Дасти модар, ки ба нармӣ бардошт
Бори аввал зи замин сӯи само:
– Писарам, бин, ана он истора
Бинигар селаи кувон ба ҳаво!

## КОЛИСКА

*Земля – колиска розуму, але не можна*
*вічно жити в колисці!*
*К.Є.Ціолковський*

Небо синім нависло пологом.
Щира дяка тобі, колиско!
Не зростила ти сім'я кволого,
Не приземлила мрії низько.

Полог вишитий зорями гойними.
Сонце – забавка у хмаринках.
Неземні наші рани гоїла
Ти – в огромі вселенськім піщинка.

За парканом карпатським дужим,
В Гімалаях сповита млою, –
Як долоня людська натруджена
Стала ти для людини малою.

І коли ми шляхами орлиними
Помчимо до планет насторожених, –
Ти, пропахла зелом і глиною,
Будеш зіркою придорожньою.

Обживем навіть космос з жартами.
Тільки сум по землі огорне:
Краплю сонця гарячу жайвір там
Аж до осені студить в горлі.

Гайвороння крильми поблискує,
Пахне першим покосом з лугу,
І лоша бадилину смикає,
Аж хитає малого з натуги.

У туманностях оманливих,
В млі космічної завірюхи
Нам згадаються руки мамині,
Що люляли колиску, руки.

Ті долоні ласкаві першими
Од землі підняли нас вгору:
– Глянь, синочку, стоги завершені...
Глянь, пливуть журавлі з-над бору...

## ПАЛАТА МІНЁРАЎ

Руку аднагодак працягвае мне,
Пацісну я куксу ў шрамах, бы ў разорах,
І порахам
ды марганцоўкай дыхне
З раённай бальніцы
«палата мінёраў».
Далёка на захад адкочваўся гром.
Гулялі ў вайну мы –
у нашых і немцаў,
Вайна ж,
пазалёгшы за кожным кустом,
Глядзела навокала
позіркам немым.

Мы рана сталелі ў зямлянках сырых,
Але забываліся цацкі няскора.
І рваліся «цацкі»...
І ўрач гаварыў:
– Яшчэ папаўненне
ў палату мінёраў...
Здавалася,
ў цішы
рыпела зямля
На восі –
нібы на пратэзе –
у зморы.
Пасля перавязкі
(ой, раны смыляць!)
Спявала «Арлёнка»
палата мінёраў.
Вятрыска лісты нам
на шыбіну клаў,
Рабіны
рукамі здаровымі
гойдаў.

І доўга не мог нас даклікацца ў клас
Той верасень
сорак чацвёртага года...

З пустым рукавом
сын вярнуўся дамоў,
А маці, як яблыня, белая
з гора...
Хай порахам толькі
запахне ізноў,
Вы ўчуеце, хлопцы
з палаты мінёраў!
Ты помніш:
асколак абвугліла кроў,
Ты ведаеш міны
здрадлівы нораў...
Белабілетная ў дваццаць гадоў, –
Ты ў першым запасе,
палата мінёраў!

*1960*

## MINUOTOJŲ PALATA

Vienmetis vaikinas su ramentu
Prie durų kaip savą mane pasitinka.
Pakvipusi
paraku ir jodu
„Minuotojų palata“ triukšminga.

Nutolo į vakarus griausmas nuožmus.
Tebežaidėm karą – berniukų žaidimą.
Kur žengsi – vis minos.
Ir mūs žaidimus
Ne kartą nutrakė tikri sprogimai.

Žeminėse augę, mes brendom anksti,
Tačiau „žaislai“ mums pirštus tebegildė.
Atsiveria durys,
Ir vėl girdi:
„Minuotojų palata pasipildė...“

Nakčia man atrodė:
mėnulis – ir tas
Ramentais ramsčiuojas, aptvarstytas rūko.
O rytą,
kai perrišdavo žaidas, –
Dainuidavo palata „Ereliuką“.

Už lango ošė, svyravo beržai,
Vis barškino rankom sveikom į stiklą.
Ir mūšų tą rudenį laukė bergždžiai
Tušti suolai, surikiuoti mokykloj...

Sugrįžo sūnus su rankove tuščia,
O motina – lyg obelėlė šarmota...
Jej vėl pakviptų paraku čia –
Ką veikti,
palatos vaikinai žinotų.

Meni,
        kaip auga kraujo dėmė,
Žinai,
        kaip miną rankomis ima...
Baltabiliečai
                pačioj jaunumėj,–
Jūs atsarginiai
                pirmo šaukimo!

## ПАЛАТАИ МИНАГУЗОРОН

Даст додам як ҷавон – ҳамсоли ман,
Дасти захминаш фишурдам нӯги даст.
Бӯи сад навъ дору ояд бар димоғ,
Ин макони ҷангиёни хаста аст.
Гур-гури поезд моил сӯи Ғарб,
Дар ҳамон айёми гармо ду тараф –
Душману мо ҷангбозӣ кардаем,
Аз миёни бута чашми нохалаф
Дошт бар мо ҷанги бадқаҳру шарир.
Дар заминканҳо калон гаштем зуд,
Лек ёди кӯдакиҳо монд дер,
«Бозӣ» охир ёфт,
Духтур ҳам бигуфт:
– Дар палата боз беморе фузуд,
Дакка зад, гӯё замин дар тири худ,
Гӯиё, аз дард афғоне кашид –
Духтури ман докапечам менамуд.
Тоқ гашта тоқати беморҳо,
Бар фазо паррид «Укобак» аз ҷигар.
Дар паси тиреза дасти шӯхбод
Баргҳоро дода, гӯё болу пар.
Кай будӣ имкони занги мактабӣ,
То ки моро бар дабистон оварад.
Даст гум карда писар омад зи ҷанг,
Модари пираш ба дил ғам мехӯрад,
Бӯи борут ояд аз майдон ҳанӯз ...
Бишнав, ин овоз аз онон ҳанӯз ...

## ПАЛАТА МІНЕРІВ

Коли перевесник зустріне мене
І куксу у шрамах подасть незугарну, –
Враз порохом
                    і нашатирем дихне
Мінерів палата
                    в районній лікарні.

На захід громи кочували іще.
Ми грали в війну
                    або в наших і німців,
Війна ж,
            заховавшись за кожним кущем,
Довкіл чатувала жорстоко і німо.

Доросліли рано в землянках сирих,
Та скоро цяцьки не змогли забувати, –
«Цяцьки» вибухали...
Й хірург говорив:
– Поповнення знов у мінерів палату...

Здавалося,
            в тиші
                    рипіла земля
Протезом осі,
                    що аж лопались нерви.
Під час перев'язки
                    (ой, рани болять!)
Співала «Орлятко»
                    палата мінерів.
І вітер нам клеїв на шибах німих
Руками здоровими
                    листя нівроку.
І довго докликатись в школу не міг
Той вересень
                    сорок четвертого року...

Порожній рукав... син додому прийшов...
А мати, мов яблуня біла, –
у двері...

Хай порохом тільки запахне із нов,
Ви вчуєте, хлопці
з палати мінерів.

Ти знаєш:
осколок обвуглює світ
І вдачу-здрадливицю мін
переклято...
Хоч білобілетна із надтяти літ, –
Ти в першім запасі,
мінерів палато!



*Пачаткоўцы з Якубам Коласам. 1957 г.*




*З Уладзімірам Дубоўкам. 1961 г.*



*Маладыя гады... Стаяць: Рыгор Барадулін, Анатоль Клышка, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін; сядзяць: Юрась Свірка, Мікола Арочка, Кастусь Цвірка. 1955 г.*

# СТЭАРЫНАВАЯ СВЕЧКА

Яна ка мне прыйшла не з добрай казкі,
Не з ёлкі у агнях пад Новы год,
Гарачыя аладкі з ейнай ласкі
З патэльні я хапаў хутчэй у рот.

Сорак чацвёрты ўспомніцца заўсёды –
На павуцінні жоўклы ліст трымціць.
Заўзята мы лапацім агароды,
Каб леташнюю бульбіну знайсці.

І гэтай бульбы з дзіўнай назвай «рулі»
Для нас такіх прысмакаў напячэ
Назаўтра клапатлівая матуля,
Ясі – баішся, каб было яшчэ.

Яна ка мне прыйшла не з добрай казкі,
Бо нельга так было – ні даць ні ўзяць–
Без гэтай стэарынавай падмазкі
«Прысмакі» ад патэльні адарваць.

Яе не дакраналіся запалкай
І ад ката хавалі па начах.
Я смак таго трафейнага асмалка
Яшчэ і зараз чую на губах.

*1960*

## THE TALLOW CANDLE

It came to me not from fairy-tales
Or fir trees ablaze on New Year's Eve.
Thanks to it hot potato cakes
I grabbed from the pan with greater ease.

I'll never forget 1944 –
A yellow leaf quivers on a spider's web,
We dig the vegetable plots once more
For any potatoes there might be left.

From them would our loving mother make
With tender care for the day to come
A treat for us children – potato cakes.
We'd eat them, dreading each was the last one.

It came to me not from fairy-tales...
We couldn't remove a single piece
Of the delicacies our mother made
If the pan wasn't rubbed with candle grease.

No match to the candle we ever set,
At night we hid it away from the cat.
The precious stub's taste I'll never forget,
My lips still savour that candle fat...

На англійскую пераклаў Пітэр Тэмпіст

## LA VELA DE ESTEARINA

Llegó a mi vivir, mas no del cuento
de Navidad que la memoria evoca.
Gracias a ella, en la sartén hirviente
pescaba los buñuelos, ¡y a la boca!

Cuarenta y cuatro. Año que recuerdo
con el follaje de oro amedrentado.
A pala revolvemos cada huerto
buscando papas del año pasado.

De aquellas papas arrugadas, blandas,
mamita al otro día, atenta y suave,
freía el manjar, la mejor vianda:
comiendo, aún hoy temo que se acabe.

Llegó a mi vivir, mas no del cuento,
porque era imposible, santo cielo,
sacar de la sartén esos buñuelos
si no habían usado el untamiento.

Jamás la encendimos, no por fina,
Del gato la escondíamos a diario.
Era un trofeo, un cabo de estearina,
El gusto aún lo siento entre los labios.

На іспанскую пераклаў Карлас Шэрман

## КАМУ НАЛЕЖАЦЬ АБЛОКІ?

Каму належаць аблокі?
Адкажа крыло сарокі,
Што пер'ем мяняцца смела
З аблокамі захацела.
Каму належаць аблокі?
Адкажа блакіт далёкі,
Што водзіць за рукі аблокі,
Як тых унукаў на ўрокі.

Каму належаць аблокі?
Адкажуць нячутныя крокі,
Што зябнуць у зорнай знямозе
Слядамі на Млечнай Дарозе.
Як неслухі, збеглыя з дому,
Аблокі належаць
Нікому!

*1996*

## WHOM DO THE CLOUDS BELONG TO?

Whom do the clouds belong to?
The wing of a magpie'll reply,
The one that would like to exchange
Its feathers with those of the clouds.

Whom do the clouds belong to?
The blue sky will give a reply
That leads the clouds by the hands
As grandsons are led to school.

Who is the owner of the clouds?
Inaudible steps will reply
That freeze in starry exhaustion
With its footprints on the Milky Way.
Like disobedient kids
That ran away from their home,
Clouds belong to no one!

***

Спіць Дамініка.
І лялька
Просіцца з ложка далоў.
Ноч мае форму яйка,
Не прызнае вуглоў.

Ноч –
Тое яйка, з якога
Вылупіцца святло,
Зробіцца многа
З нічога,
Рэчку ўзгадуе вясло.

Дзедзіна песціць і грэе,
Туліць у ціхаце.
Спіць дамавік і старэе,
Спіць Дамініка й
Расце.

*1997*

***

Daminica’s asleep
The doll
Strives from the bed to amble.
Night is shaped like an egg,
It doesn’t distinguish angles.

Night
Is the ovum
That hatches the flash,
Rises the harum-scarum
From zero,
Of the oar the rivers rush.

Tenderly hugs the native cradle,
Quietly cuddles,
Sleeps the brownie
And ages,
Sleeps Daminica ‘n
Grows up.

## ХТО?

Хто старэйшы, думка ці слова,
Хто шчырэйшы з іх?
Даць адказ,
Можа, зможа чорнагаловы
Змрок спрадвечча, што доўга гас,
Покуль вёў са святлом змаганне.
Смутак слова гукаў,
І гук
Узышоў на нябеснай паляне.
Слова выпала ў Бога з рук.

Думка ўспыхнула невыпадкова
І святлу дадала святла.
Бог спачатку задумаў слова.
Сведкай гэтаму думка была.

*1997*

## QU'EST-CE QUI?

Qu'est-ce qui est plus vieux,
La pensée ou la parole ?
Qu'est-ce qui est plus sincère ?
Donner la réponse peut-être,
Pourront les ténèbres noires séculaires
Qui s'éteignaient lentement
Pendant qu'ils luttaient
Contre la clarté
Depuis l'éternité.
La tristesse appelait la parole
Et le son a poussé
Sur une lisière céleste.
La parole est tombée de la main de Dieu

Ce n'est pas par hasard
Que la pensée s'est enflammée.
Elle a donné au monde de la lumière.
Premièrement Dieu a conçu la parole.
La pensée en était le témoin oculaire.

На французскую пераклала Ніна Дзябольская

## ІСЦІМЕ...

*Айцу Аляксандру Надсану*

Ажно маладзеюць сцены старыя,
Лягчэе з адвечнай скрухай кулёк.
Трымае Сына
Дзева Марыя,
А ў Немаўляці ў руцэ –
Васілёк.

У ціхай свячыцы святая праца,
Што свенціць свет
Незямным святлом.
Святло разгарыцца,
Каб мог спрачацца
Наш дух вячысты
З вачыстым злом.

Полымнакрыла б’ецца трывога
Нікім не спалоханым матыльком.
Душа беларуская йсціме
Да Бога
З нябеснаю свечкаю –
З васільком.

*1998*

## PŮJDE

Dokonce i staré stěny mohou mládnout,
věrtel z odvěkého žalu lehčí je.
Synáčka v náručí chová
Marie Panna,
a děťátko v ruce
drží chrpy květ.

Před světicí tichou svatý úkol stojí –
nadpozemské světlo
má osvítit zem.
Až to světlo vzplane,
pak se utká v boji
duch, který je věčný,
s bystrozrakým zlem.

Plameny křídel na poplach buší
motýlek neohrožený.
Půjde vstříc
Bohu
běloruská duše
s kvítečkem chrpy, světlem nebeským.

На чэшскую пераклала Францішка Сокалава

## АЙЧЫНА ДУМКІ

Айчына думкі.
Ува мне яна
Паўсюль, дзе быў
І дзе яшчэ не буду.
Здарожаная думка мне звідна
І дацямна
Укленчыць раіць цуду.

Цуд непачуты на зямлі расце,
Якая й называецца Айчынай.
Таксама на здарожанай вярсце
Сустрэцца мусяць
Вынікі з прычынай.

Айчына думкі
Ахіне мяне,
Як роднага,
Здарожанай маркотай.
Малечы плач,
Што спаў у палыне,
На вушка нешта
Смеху скажа ўпотай...

*1998*

## THE MOTHERLAND OF THOUGHT

The Motherland of thought.
It is in me,
Where I have been,
Where I shall never be.
Since dawn until nightfall, worn out by flee.

This thought suggests the miracle to kneel.
The miracle, unheard, grows on the ground,
This precious ground Motherland it calls.
Through tiresome miles somewhere can be found
The consequence
When having met its cause.

The Motherland of thought of me takes care,
Embraces me, jaded, as a loving sister.
The childish weep,
That slept in wormwood there,
In laughter's ear a word shall softly whisper.

***

Сказаць мне слоў апошніх не змагла.
Я не пачуў, што гаварылі вочы.
А ў мамы позірк быў такі сірочы.
І шыбы сталі з матавага шкла.
І хату ўсю завалакла імгла.
І толькі чуўся ў садзе гвалт сарочы.
Прыйшлі, як і суседкі, тыя ночы,
З якімі доўга гутарку вяла.

Была хвароба прыжывалкай ціхай,
А не было каму падаць вады.
Быў вецер злы, агонь у печы з пыхай.
Смялела немач, немата панела.
Як некалі сустрэнемся, тады
Перапытаю, што сказаць хацела.

*1998*

***

You had no chance to say your parting word.
I did not feel what eyes had me to teach,
The mother's lonely glance nowhere could reach.
The window glass became mournfully blurred
The mortal shadows all the house have slurred.
The garden's screaming with the magpies' screech,
The neighbours came to say the farewell speech
Along with nights that lastingly recurred.

The illness dwelled as sponges in the heart,
But no one came to quench my mother's thirst,
The evil wind fanned ill fire in the hearth,
With brash disease and muteness thriving well.
Should only once we meet in heavens, first
I'll ask again what you desired to tell.

## АДКАЗ РЭХУ

– Якую ўспамінаеш маму?
– Добрую.
– Якую шукаеш маму?
– Светлую.
– Якую гукаеш маму?
– Шчырую.
Бог пасылае маці
І забірае,
Каб сыну да апошняга дня
Шукаць,
Гукаць,
Успамінаць,
Упарта верачы, па-чалавечы,
Што станецца Дзень сустрэчы.

*1999*

## ANSWER TO THE ECHO

– How do you remember Mum?
– She was kind.
– What Mum are you looking for?
– Fair-haired.
– What Mum are you calling back?
– Sincere.
God sends mothers
And takes them back,
Thus making their sons
Look for...
Call back...
Recollect,
Having a strong belief
That sooner or later they will meet.

На англійскую пераклала Алена Таболіч

## **БЫЦЬ!**

*І. Г.Сарокіну*

Быць Беларусам –
Гэта значыць,
Свайго ні гуку не забыць,
Усё чужое перайначыць,
Каб Беларусі вечна быць!

Быць Беларусам –
Гэта значыць,
Вясёла з сумнай долі кпіць,
Да Бога сцежку верай значыць,
Нагбом з карца надзеі піць.

Быць Беларусам –
Гэта значыць,
За родны Край згараць на дым,
Па-беларуску чуць і бачыць
На гэтым свеце і на тым.

*1999*

**TO BE!**

To be a Belarusian
Means
Not to forget a single native sound,
To change the world around us,
For Belarus to live for ever!

To be a Belarusian
Means
To cheerfully mock at saddest fate,
To pave the path to God with faith,
To drink from the scoop of Hope.

To be a Belarusian
Means
To burn to ashes down for our native land,
To hear and see in a Belarusian way
Both here and when we pass away.

**BÝT!**

Být Bělorus, co to má být?
Svůj jazyk v srdci zachovat
a cizí po svém přebírat,
aby zem mohla věčně žít.

Být Bělorusem, co to je?
Žertovat nad svou vlastní bídou,
jít cestou k Bohu s pevnou vírou,
lačně pít z korbele naděje.

Být Bělorus, co to má být?
Na popel za svou zemi shořet
a běloruský cit a pohled
na tom i na onom světě mít!

На чэшскую пераклала Францішка Сокалава

であるために！

イーハル・サローキンに捧ぐ

ベラルーシ人であること
それは
自分の立てた物音を忘れぬこと、
他人のものはかたちを変えること、
ベラルーシが永遠であるために！

ベラルーシ人であること
それは、
幸い運命を笑い飛ばすこと、
信ずる心で神の道を示すこと、
柄杓を傾け希望を飲み干すこと。

ベラルーシ人であること
それは
祖国のために燃え尽きること、
ベラルーシの耳と眼を保つこと、
この世でもあの世でも。

***

Вось і першы дождж веснавы
Шэпча нешта нябеснае долу.
Я дажыў да зялёнай травы –
Дзякуй ахоўцу-анёлу!
І да жаўталісту цяпер,
І да белых зорак завеі
Я дажыць маю пэўны намер.
І намерам тым маладзею.

*1999*

***

Гьабайля регIиболъI гьечIе ссигис цIIай
РешинолъI балъголъер щущеда унщя.
Шукру дуа БетIергьан, дибай малайкдал,
Вуххала чIаго ден гIачолъер боххил.

Гьера обил кьере кьIалиба тIамил,
Мучулал рахьулас гьацIарай цIвабди,
Цеб идя кьучIIаб хьул – чIаго вуххалъа.
Гьоб хьулил идя ден гIолохъанайдал.

***

La première pluie de printemps
Murmure des mots célestes aux champs.
Je vois l'herbe verte enfin –
J'en remercie mon ange-gardien!

J'ai une ferme résolution d'hier
De revoir les feuilles jaunes,
Les étoiles blanches de notre hiver.
Cette solution m'aide à me sentir jeune.



*З Ігарам Шклярэўскім. 70-я гады*



*З Іванам Бурсавым. 70-я гады*



*Перакладчык на англійскую мову Уолтэр Мэй. 1999 г.*

## ВЯСНОВЫ ДЗЕНЬ

Вясновы дзень быў радасцю даўгі,
Ды скарацеў, зрабіўшыся зімовым.
Цяпер даўжэе ноч маёй тугі,
Яна не падуладная замовам.

Я разумею ноч, а мне яна
Не паспрыяе, не паспагадае.
Тады было святло, была вясна,
Цяпер азябла цемра галадае.

А ўсё таму, што вас няма са мной.
А вы былі калісьці ці ніколі?
Былі маёй зялёнаю вясной,
Вясёлаю бярэзінаю ў полі.

Як той бяздушны вецер, я п'янеў,
І быў зялёны я ў сваім наіве.
Быў добры першы гром, і першы гнеў,
І першы след на некранутай ніве.

Штоноч даўжэе ноч маёй тугі,
Радзей вясновае світанне сніцца.
Звіняць майго адчаю ланцугі.
Самота – беспрасветная цямніца.

*2000*

## ВЭСНАКІРО ДЫВЭС

Сыр сыс длэнго вэснакіро дывэс,
Яця ёв кротко пэ годы сыр мэнта,
Длугёла мірі туга пэ ило,
Со нашадём мэ бахт адякэ крэнто.

Мэ ѓалёвава рат, нэ ёй нісыр,
На дэла васт, і духо на ѓаздэла,
Адякэ тэ рісёл э вэсныца сашты,
Мэ тэ кхарав палэ, ёй рада дэла.

Дава саро, со ту ужэ гиян,
Мэ на джином, сыр набут санас манца,
Вэснакіро ілыткэс ракирдян,
Сыр брэзыца пэ фэлда ранца.

Балвал пурдэлас, ту лэс на шундян
І мэ патяндыём сыр тыкно біято,
Мардя о громо, сыр тэды ту гіян,
Чхаво наівно сомас пэскрэ датэ.

Тугатыр рат барьёла дывысэндыр
Нанэ бутыр вэснакірэ сунэ,
Шунава фэні звоно састырэндыр,
Ілэстыр мыслі мрэ калэ.

## АНЁЛ, ЯКІ НА ЛЮТНІ ГРАЕ

Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае,
Калі забытыя сляды
Згадае сцежка маладая.

Калі гады, нібы дзяды,
На прызбу стомы сядуць з краю,
Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае.

Калі не позірку бяды,
А зноў душа паверыць раю,
Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае.

*2000*

## THE ANGEL WHO PLAYS THE LUTE

There, in your daydreams
Will be the angel playing the lute,
If a new path
Recollects the forgotten steps.

When the years, like grandfathers,
Sit at the edge of the porches of tiredness,
There, in your daydreams
Will be the angel playing the lute.

If not in the glint of misfortune
But in the paradise the soul believes,
There, in your daydreams
Will be the angel playing the lute.

## DER ENGEL, DER DIE LAUTE SPIELT

Er träumt mir dann, der Engel,
Wenn er die Laute spielt.
Wenn ein neuer Pfad mich
An vergessne Spuren erinnert.

Wenn die Jahre, wie Greise,
Sich auf den Erdwall hinsetzen,
Er träumt mir dann, der Engel,
Wenn er die Laute spielt.

Wenn ich dem Unglück entrinne
Und an Paradies die Seele glaubt.
Er träumt mir dann, der Engel,
Wenn er die Laute spielt.

## ANDĚL, CO NA LOUTNU NÁM HRAJE

Pak se nám ve snách objeví
anděl, co na loutnu nám hraje,
až ve zmizelých kročejích
mladí zas cestu prošlapají.

Až léta jak starci šediví
zmoženě usednou na práh zkraje,
pak se nám ve snu objeví
anděl, co na loutnu nám hraje.

Až duše ne už bědám svým,
ale zas začnou věřit ráji,
pak se nám ve snu objeví
anděl, co na loutnu nám hraje.

На чэшскую пераклала Франціішка Сокалава

# БЕЛАРУСЬ –
# ТЫ МОЙ СОН ВЕЛІКОДНЫ

Беларусь – ты мой сон велікодны,
Сон, што сніцца анёлам вясной.
Зрок і слых мой табою галодны,
Дух жыве мой табою адной.

Гэта ведае неба ды Мама –
Без цябе не бывае мяне.
І душа жыць не можа без храма,
Цяжка ёй у чужой старане.

Адусюль да цябе я імкнуся
Быць у шчасці з табой і ў бядзе.
Чысцінёю тваёй прычашчуся,
Сорам твой на мяне хай падзе.

*2000*

## BELARUS,
## YOU ARE MY EASTER DREAM

Belarus, You are my Easter dream,
The dream that angels see in spring.
My feelings now are more than extreme,
O’er my soul You are the only King.

Only Heaven an’ Mother know my trouble,
I can live here only with Your grace.
No soul can exist without a temple.
It’s hard to dwell in a foreign place.

I am longing for You, lost in my daydreams.
To share Your joys, sadness and sorrow.
To take communion with Your, pure, means
To take Your shame, now and tomorrow.

На англійскую пераклала Алена Таболіч

## BALTARUSIJA – MANO VELYKE

Baltarusija – mano velyke,
Angelų per sapnus regima.
Vien tave tegirdėt, tematyti
Trokšta siela išalkus mana.

Taip dangaus, taip ir Motinos lemta –
Nėr manęs ir nebus be tavęs.
Be šventovės dvasia negyventų,
Jai negera svečioj šalyje.

Iš visur į tave mano siekis
Laimėj būt su tavim ir varge.
Leisk tyruman tavan įsilieti,
Tavo gėda te slegia mane.

На літоўскую пераклаў Владас Бражунас

## ベラルーシ、復活祭の私の夢よ

ベラルーシ、復活祭の私の夢よ、
春の天使の見る夢よ。
見る目、聞く耳がおまえを欲する、
私の魂が生きるのはおまえひとりのため。

知っているのは天国と母さんだけ、
おまえがなければ私もないということを。
魂も聖堂なしでは生きられず、
異国の地では辛いだけ。

どこにいようと心はいつもおまえのもとに、
苦難のときも至福のときも。
おまえの清らかさが私の聖餐式となり、
おまえの恥辱は私に降りかかるがよい。

## КАБ НЕ ЗЯБЛА...

Кожны крок на зямлі выпадковы.
Мройным зоркам
Зайздросціць жарства.
Ветрам нашы развеюцца словы.
З праху ціхая ўзыдзе трава.

Наабгон з вечарамі старэем.
Маладзее цярпліва труна.
Ці жывем,
Ці зямлю гэту грэем,
Каб не зябла ў Сусвеце яна?..

*2001*

## CHE NON SENTA FREDDO

Ogni passo sulla terra è fatto a caso.
La passione invidia
Le stelle sognanti.
Con il vento svaniscono le parole.
Dalla polvere l'erba cresce pian piano.

Lasciando le stelle indietro
Ci invecchiamo.
Con pazienza aspetta la bara
Viviamo.
Oppure scaldiamo la terra.
Che non senta il freddo?

На італьянскую пераклала Кацярына Івановіч

## ПРАПАЖА

Похапкам паліць Пярун
Лучыну нервовую бліскавіцаў,
Каб у цемрачы адшукаць
Пярсцёнак,
Які прымяраў на мезінчык.
А той пакаціўся, круглы, як рэха,
У далёкае некуды.
Пярун толькі бачыць,
Як бліскаюць босыя пяткі дажджу.
А ён, зніцелы, худы,
Уцякае куды?
Што шукае?

*2002*

## LOSS

Thunder is burning now and again
The nervous splinter of lightning
To find the ring
In the darkness,
The ring that was on a little finger
The round ring went rolling, like an echo,
Somewhere far away.
Now the thunder can only watch
The barefoot rain, thin like a thread,
Running away.
What is it looking for?

На англійскую пераклала Алена Таболіч

## БОЛЬ

І камень, і дрэва, і дым –
Жывыя яны.
А таму
Каменю молат баліць,
Дрэву – сякера,
Дыму – агонь.
Вядома, баліць таксама
Молату – непадуладнасць каменя,
Сякеры – ашчаднасць дрэва,
Агню – няшчаднасць дажджу.
Боль усё жывое трымае.
Болю не чуе смерць.
Смерць нямая...

*2003*

## IL DOLORE PAG

Sia pietra, legno, fumo
Sono vivi.
E perciò
Di martello soffre la pietra.
Di ascia-il legno.
Di fuoco-il fumo.
Certo che soffre pure
La pietra non sottoposta al martello.
Il legno moderato all’ascia.
La pioggia implacabile al fuoco.
Il dolor tutto tiene.
Di dolori non soffre la morte.
La morte è muta.

На італьянскую пераклала Кацярына Івановіч

## ЯК ДУМКА...

Палілі царкву.
І драўляны Хрыстос
З гарышча ўцякаў
З вяроўкай на шыі.
Агонь даганяў, як зняверaны лёс,
І храм
Ані гром, ані дождж не тушылі.
І рухнула
Абяззвоненая царква.
Хрыстос дагараў
На паваленым плоце.
І аддальвалася абгарэлая галава,
Як думка,
Далей ад ліповае плоці...

*2003*

**AS A THOUGHT...**

The church was on fire.
And the wooden Christ
Escaped from the burning place,
His neck with a thick rope.
The fire ran down like disappointed fate.
Neither thunder
Nor rain gave the temple its hope.

And the church with the singing bells
Crashed down.
Christ was burning out
On the broken old palings.
The burnt head fell off with the crown
From the linden flesh, wailing...

На англійскую пераклала Вольга Гапеева

## КАБ РУНЕЛА ДУША...

Каб рунела душа,
Кожны крыж свой нясе
Ад народзін да скону.
Усявышні сказаў
Не стамляцца красе,
Свету даўшы ікону.

На балючым крыжы
Нам нябёсы ўзняло
Рук Хрыстовых раскрылле.
Аступілася зло
Ды ўваскросла святло.
Ройна на небасхіле.

Вучаць лётаць крыжы
Крумкача і арла.
Дол чакае, вядома,
Каб на крыж,
Развітаўшыся з намі,
Магла
Абаперціся стома.

*2003*

## FOR A SOUL TO BE IN BLOSSOM...

For a soul to be in blossom
One has to carry his own cross
From one's birth to his departure.
The order given by the Lord to Beauty
Was to never feel fatigue,
And Icon was presented to the world.

On a very painful cross
The hands of Jesus were raised
Up to Heaven.
Evil has retreated at a loss,
Light has resurrected
On the mute horizon.

Crosses teach how to fly
Both an eagle and a clever raven.
But the ground's standing by
For the time
When Fatigue, having bid farewell to us,
Could have rest on the cross.

## POUR QUE L'ÂME ÉCLORE...

Pour que l'âme éclore
Chacun porte sa croix
Dès la naissance jusqu'à la mort.
L'Être Suprême a dit à la beauté
De ne pas disparaître,
Et il a donné l'icône aux prêtres.

A la croix de martyre
Les cieux nous ont reproduit
Les mains de Jésus Christ.
Le mal a reculé,
La lumière est renée,
Tout est en équilibre.

Les croix apprennent à voler
Aux corbeaux et aux aigles.
La Terre attend que la faiblesse
Puisse s'appuyer
A la croix
Qui nous laisse.

魂が春の芽生えを迎えるために

魂が春の芽生えを迎えるために、
ひとはみな自分の十字架を担い行く
生まれおちてから死ぬときまで。
全能なる神は命じられた
聖像を世に与えたときから
美が疲れおとろえることのなきようにと。

痛み苦しんだ十字架の上
天がわれらの前に押し上げられる
翼なるキリストの御手によって。
悪はしりぞき、
光はよみがえった。
天空は賑わう。

カラスとワシに
飛びかたを教えるのは十字架。
それでも最後に待つのは大地、
お別れのときが来たならば、
十字架の上に
よりかかり
疲れを癒し休めるように。

***

Ойча праведны, памажы
Быць пакорным Тваім іспытам.
Адвядзі мяне ад мяжы
Між жыццём і спаміж нябытам.

Павядзі мяне па жыцці,
Па трыпутніку і ажыне,
Памажы мне сцежку знайсці,
Што не кіне мяне на чужыне.

Памажы мне застацца сабой –
Быць з душою сваёй у згодзе,
Жыць і радасцю і журбой
У Тваёй трывалай гасподзе.

Колькі дзён Ты мне ні дасі –
Буду ўдзячны і заўтра й сёння,
На зямлі й на небясі
Шчыра ўкленчу святой іконе.

*2004*

***

Боже правий, допоможи
Із випробувань вийти
з честю.
Відведи мене від межі,
Де зійшлися життя
зі смертю.

По житті мене поведи:
Дай іти по такій стежині
Між ожини та лободи,
Щоб не кинула на чужині.

Дай спокою душі моїй,
Дай лишитись самим собою
І в оселі Твоїй міцній
Жити радістю і журбою.

Скільки днів мені не даси,
Вдячний буду я миті кожній.
На землі і на небеси
Помолюся іконі Божій.

***

Aide-moi, oh juste Père,
A être docile à Tes peines.
Détourne-moi du chemin
Entre la vie et le néant.

Mène-moi à travers l'existence
Entre les fraises et les ronces.
Aide-moi à trouver le sentier
Qui ne me quittera pas l'étranger.

Aide-moi à rester moi-même,
A être en accord avec mon âme,
A vivre de joie et de tristesse
Dans Ton royaume comme dans une forteresse.

Que de journées Tu me donnes, n'importe,
Je Te serai reconnaissant
Aujourd'hui et demain,
Sur terre et dans les cieux où Tu me portes.

На французскую пераклала Ніна Дзябольская

***

Svatý a spravedlivý Otče, dej
nést tvoje zkoušky s pokorou
a od těch míst mne odváděj,
kde život hraničí s nicotou.

Rád se dám Tebou v žití vést
přes jitrocel i ostružiní.
Ať moje cesta není z cest,
co zrádně zvábí do ciziny.

Pomoz mně vždy sám sebou být,
žít se svou duší v dobré shodě
a v radosti, i v žalosti
být v Tvoji nebeské hospodě.

Jak chceš, ať trvají mé dny,
budu Ti vždycky vděčný za ně.
A na nebi i na zemi
Tvé ikoně se s úctou klánět.

***

Гасподзь! Затрымацца дазволь
На гэтай грэшнай зямлі.
Зрабі ласкавейшы мой боль.
Душы раўнавагу пашлі.

Праз ноч,
Што жыццём наракл,
Я йшоў на Твае святло.
Гублялася сцежка ў быллі,
Ды ў сэрцы світанне жыло.

Гасподзь! Прагані мой страх,
Што следам ідзе за мной.
Я, з праху зямнога прах,
Вінюся зямной віной.

Пачую Цябе і глухі.
Аддзячыць хачу стакроць.
Правіны мае і грахі
Даруй, літасцівы Гасподзь...

*2004*

***

Дай Боже, на грішній землі
Затриматись ще мені.
Вгамуй всі турботи й жалі,
Від сумнівів душу звільни.

Крізь ніч,
Що життям усі звуть,
На світло Твоє весь час
Я йшов – хоч губилася путь,
Та в серці світанок не згас.

Мій Боже! Розвій цей страх,
Що слідом йде все життя.
Я – праху земного прах
Й земне моє каяття.

Почую Тебе і глухий.
Стократ віддячити хочу.
Провини мої та гріхи
Пробач, милостивий Отче.

***

Seigneur! Permets-moi de rester
Sur cette terre de péchés.
Prends-moi ma douleur,
Remets-moi mon équilibreur.

A travers la nuit
Que l'on appelle une vie
Je marchais vers Ta lumière.
Le sentier se perdait dans les épines,
Mais l'aube vivait dans mon coeur meurtri.

Seigneur !
Chasse mes peurs
Qui courent sur mes pas.
Moi, poussière sur terre,
Je reconnais mes fautes à moi.

Les sourds sont sûrs de T'entendre
Je Te remercie cent fois.
Mes péchés et mes fautes à prendre,
Bon Seigneur, donne-les-moi...

***

Můj Pane! Ještě aspoň chvíli
pobýt mi na té hříšné zemi přej.
Ulehči bolest, vrať mi síly
a duši rovnováhu dej!

Tou nocí,
kterou žitím zvali,
mé kroky za Tvým světlem šly.
Ač cesta býlím zarůstala,
mé srdce žilo svítáním.

Můj Pane, odežeň ten strach,
který mi stále v stopách kráčí.
Já, který jsem jen prachu prach,
přiznávám svoje viny s pláčem.

Budu Tě slyšet, třeba hluchý.
Vše stonásobně zaplatím.
Má provinění, hříchy, dluhy
odpusť mi, Pane slitovný...

## НЯЎСЕДНАЕ ЛІСЦЕ...

Дадаўшы самоце восеньскай суму,
Ветравей насмешліва ў гурбы змёў
Лісце няўседнае вераб'ёў,
Апалае з вечнага дрэва шуму.

*2004*

## FOGLIAME VIVACE...

Reso l’autunno ancora più triste
Il soffio di vento con un sorriso
Ha raccolto in un mucchio
Il fogliame dei passeri vispi
Caduto dall’albero di eterno rumore.

## ПРЫЛЯЦЕЛІ...

Гэта з вятрыстае Верасовачкі
Прыляцелі сарокі ў двор
Яшчэ раз мне нагадаць,
Што ад хутара нічога не засталося.
І цвеляць з імі ляцець
Сароку з зялёным крыллем –
Бярэзіну растрывожаную.
А ёй ніяк ад зямлі
Не адарвацца...

*2004*

## THEY HAVE COME...

From my windy Verasovachka
Magpies have come to the yard
To remind me once again
That there's no trace of the farm.
They are tempting the alarmed birch
To fly with them,
Tempting this green-winged magpie,
But it cannot tear away
From the ground...

На англійскую пераклала Алена Таболіч

## ПЕРАЗІМАВАЛІ...

Красавік ступае нетаропкай хадой
Па ўзроўю,
Па ўзваллю,
Па хлуду.
Вераб'і купаюцца ў лужыне маладой,
Шчаслівыя да перапуду.

На вадзе на ўвесь рот
Смяюцца кругі,
Як гукі на карнавале.
У вераб'ёў ані крыўды, ані тугі –
Не лёталі ў вырай.
Тут зімавалі...

*2005*

## THEY SPENT WINTER HERE...

April is walking, like a slow walker,
Across the ditches,
Across the heaps of rubbish,
Across the brush of the farm.
Sparrows are bathing in the fresh water,
They are happy in alarm.

On the water
Circles are laughing happily to show
That they are at the feast.
The sparrows feel neither offence nor sorrow –
They did not fly to warmer climes,
They spent the winter here, in the east.

## ЖАЎРАНАК КАХАННЯ

*Акраверш*

**А**шукаўшы злыя халады,
**Л**аскаю чаканага світання
**А**бнадзеіць сэрца назаўжды
**С**онцакрылы жаўранак кахання.
**А**бляціць пажоўклы ліст журбы.
**К**олас шчырасці нальецца сілай.
**А**дляцець да зорнай варажбы
**Л**ёс дазволіць роспачы абнылай.
**О**дум ціха ўкленчыць вышыні
**Ў** неабвечарэлым парыванні.
**С**лова дападзе да глыбіні.
**К**ожны дзень багатым святам стане.
**А**дгукнецца жаўранак кахання
**Я**снавітай далечы жадання...

*15 лютага 2005*

## ALLODOLA D’AMORE

**A**ver imbrogliato il freddo feroce
**L**a forza gradita di alba tenera
**A**ssicurerà il cuore per sempre.
**S**ole in ali d’uccello d’amore che
**A**ttorno la foglia ingiallita volò.
**C**olma la forza la spiga sincera,
**A** tristezza permette di volar via
**L**a fortuna fino all’infinito stellato.
**O**gni pensiero si inginocchia di fronte ad
**U**n impeto di sera ancora in ritardo.
**S**entite parole profonde dal cuore
**C**ome la festa sarà ogni giorno,
**A**spetto il ritorno d’uccello d’amore
**I**ncantato di lontananza di vogli**A**.

На італьянскую пераклала Кацярына Івановіч

## РОКЬИЛЪ1 ЩАКИБО...

**А**нзе – зарагъуря хIилладил гегье,
**Л**ъираби хIереноб кванлъидоб гIужил,
**А**бадаля бежур беккелъIал ракIвá,
**С**усукIигал кунчIоб милъилял рекун –
**А**зал керще гогьоб рокьилъI щакибол.
**К**ъоралъобал кьIала бекъуха ххерас.
**А**нищабдал къеру къуватолъI бецIáс.
**Л**ъарчIIу дуб эртавха цIIвабдахар баъас.
**О**делъер пикрабалъI кутакоб болъIас.
**У**ргъел – пашманлъерел мучулал боъá,
**С**ипат – суратолъIел кьере бечелъас;
**К**ъисматил зебади зухIматяр ссорáс.
**А**нлъалъайдяб хIохьел хьвагIайдоб лъирулъI,
**Я**шелъихар талихI бегье бехьвалъIоб...

На карацінскую пераклаў Хізры Асадулаеў

## DIE LIEBESLERCHE

**A**uf die Zärtlichkeit der Dämmerung hoffend,
**L**ügt und betrügt die Liebeslerche böse Kälte,
**A**ber tröstet für immer sonnig das Herz.

**S**chwermut fällt ab, wie ein vergilbtes Blatt,
**A**ehren der Offenheit füllen sich mit Kraft.
**K**ummer und Verzweiflung gestattet das Los,
**A**n weite Sterne davon abzufliegen.
**L**iebe, Bedenken verneigen sich vor der Höhe,
**O**bwohl es im abendlichen Anfall still ist.
**U**nd die Worte beugen sich der Tiefe nieder.
**S**o wird der Tag zu einem reichen Fest.
**K**lar wird die Ferne von der Liebeslerche und
**A**ntwort gibt den Wünschen mit Gegenliebe.
**Ja**, alles ist hier wörtlich, aber echt.

## ALOUETTE D‘AMOUR

**A**yant trompé les froids cruels,
**L**a douceur à l’aube du jour attendu
**A**pportera l’espoir pour toujours
**S**ous l’aile ensoleillée alouette d’amour.
**A**louette survolera la feuille jaune de tristesse.
**C**aressera un doux vent l’épi d’amitié.
**A**tteindra la sorcellerie astrale, ce qui est
**L**e don du destin pour un être attristé.
**O**béira la méditation aux cieux
**U**ne passion tourmentée jusqu’à ce jour.
**S**a profondeur exprimera la parole.
**C**haque jour sera la fête somptueuse.
**A**louette d’amour me rappellera
**I**nnocent et subtil sentiment d’autrefois,
**A**uquel je reste attaché, comme à toi...

На французскую пераклаў Леанід Казыра

恋のひばり

あくどい寒さの裏をかき、
黎明の待ちわびた愛撫が
暖かな希望で心を満たす。
燦々たる日差しに羽ばたく恋のヒバリ。
哀れ黄色い枯葉は舞い散る。
闊達な心は力強く実る瑞穂。
あやしき運命に導かれ
落胆の影は星の卜占を求めて飛ぶ。
厳かなる高みの夜なき激情に、
内気な迷いはひざを屈する。
その言葉は深淵の底に届くだろう。
かくて日々は豊かな祝祭に変じる。
憧れの糸の結ばれし
悠遠のかなたに
挨拶を返す恋のヒバリ。

## ХОЦЬ НЕШТА...

Маміны вочы слухалі неба.
Маміны рукі чыталі луг.
Маміны ногі гадавалі дарогу,
Каб, па ёй ідучы няспешна,
Мог прачуць я і скеміць
Хоць нешта...

*2005*

## AT LEAST SOMETHING...

The eyes of my mother listened to heaven.
The hands of my mother read meadows and fields.
The feet of my mother reared the road,
So that slowly walking on it
I could feel and grasp something
At least...

## QUELQUE CHOSE AU MOINS...

Les yeux de maman écoutaient le ciel.
Les mains de maman lisaient la prairie.
Les pieds de maman formaient le chemin,
Par lequel je peux marcher aisément,
Comprendre et saisir...
Quelque chose au moins...

На французскую пераклаў Леанід Казыра

せめてひとつは。

母の目が空の音を聴いてくれた。
母の手が草原を読み解いてくれた。
母の足が旅路を占ってくれた、
ゆっくりと道を歩きながら、
私の耳が聴こえ、頭が働くように、
せめてなにかひとつはと。

## ЖЫВІ!

У вечнасці след на ілбе
Ад пацалунка бяды.
З сабою нават сябе
Не забярэш туды.

Час –
Човен на быстрыні.
Намеры –
Салодкі дым.
Жыві ў сягонняшнім дні,
Каб заўтрашні
Стаў тваім.

*2005*

## ŽIJ!

Na čele věčnosti zůstal šrám
po hrůzném políbení.
Možnost vzít s sebou něco tam –
dokonce sám sebe – není.

Čas
je člun letící po vodě.
Tvé touhy
jen sladký dým.
To pamatuj,
žij dnešním dnem,
aby byl zítřek tvůj.

На чэшскую пераклала Францішка Сокалава

## МАЛІТВА МАТЧЫНА

Гаючыя словы малітвы Матчынай,
Якія Ён шаптаў перад сном,
Ісус паўтараў на крыжы,
Як на няўлоўнай мяжы
Між чорнай ноччу і белым днём,
Світаннем святое крыві пазначанай.
І ў кожным з нас нерастрачанай спадчынай
Жывуць, ратуючы нашыя дні,
Вяртаючы душы да вышыні,
Балючыя словы малітвы матчынай.

*2005*

## MOTHER’S PRAYER

The healing words of Mother’s prayer
Were prior to the sleep He sighed,
When crucified, Jesus rehearsed
On the boundary
Between bright noon and dark midnight,
That can’t be versed,
With holy blood was marked that day.
In each of us, like heirship, stay
And live our spirit to unchain,
Return the souls to God again –
The wrenching words of mother’s pray.

## ЗДАРАЛАСЯ...

*Генадзю Бураўкіну*

А здаралася на Беларусі,
Малацілі сноп на абусе,
Блін пяклі на лязе сякеры,
Праснакі ў рыдля на далані,
Толькі не выракаліся веры
Ды крывіцкай сваёй радні.
Косамі да цвярдых мазалёў
І мурог, і сівец касілі,
І няпрошаных маскалёў,
Бо чужой не кленчылі сіле.
Жарсць любіла каса-літоўка,
Што крамяная семнастоўка.
І панеў сабе ў Беларусі
Хлеб гасцям на бялёвым абрусе.

*2005*

## IT WOULD HAPPEN...

It would happen in Belarus
That sheaves would be beaten on butt ends.
And pancakes, fried on the edge of an axe
And unleavened cakes – on the shovel's blade...
But they would never relinquish faith
And the origin of Kryvichans
Their hard horny hands would heap
Any grass and unbidden guests
Because they would never kneel before enemies.
The Lithuanian scythe, filled with passion,
Was like a tender teenage girl.
And bread, served on a white table-cover,
Was like the Master among all its guests.

***

Божа, паспагадай усім –
І магутнаму, і слабому,
І відушчаму, і сляпому,
Каб у згодзе жылося ім.

Божа, паспагадай усім –
Каб вайной не ішоў
Брат на брата,
Каб ржавела сякера ў ка́та,
Каб вячэраю пахнуў дым.

Божа, паспагадай усім –
Каб цяплелі пагляды людскія,
Каб у старца не кралі кія,
Нічыіх не кралі радзім.

Да любові, да чысціні,
Да святла, да святога ўлоння,
Усявышні, і заўтра і сёння
Заблуканыя душы вярні!

*2005*

***

Боже, поспівчувай усім –
І здоровому, і слабому,
І видющому, і сліпому –
Щоб у згоді жилося їм.

Боже, поспівчувай усім,
Щоби брат не повстав
на брата,
Щоб ржавіла сокира в ката,
Щоб вечерею пахнув дим.

Всім, Всевишній, поспівчувай,
Щоби приязню очі палали,
Щоб у старця посох не крали
І щоб рідний не крали край.

До священних джерел
буття,
До любові, до благостині
Поверни, Боже, завтра і нині
Бідні душі, що збились
з пуття!

***

Dieu, aie de la compassion pour tous–
Pour le fort et le faible,
Pour l’aveugle et le voyant,
Qu’ils vivent en consentement.

Dieu, aie de la compassion pour tous,
Que les frères ne se battent plus,
Que la hache du bourreau se rouille,
Que la fumée sent un souper doux.

Dieu, aie de la compassion pour tous,
Que les regards humains s’attendrissent,
Qu’on ne vole pas aux vieux leurs bâtons,
Qu’on ne vole la Patrie à aucun.

Vers l’amour, vers le silence, vers le jour,
Vers la sainteté,
Dieu, fais revenir les âmes perdues
En hiver comme en été.

***

Slituj se, Bože, nad všemi,
nad silnými i slabými,
vidoucími i slepými,
ať žijí ve shodě na zemi.

Slituj se, Bože, nad každým,
ať nejsou války
bratrů s bratry,
sekery zrezivějí katům
a večeří jen voní dým.

Slituj se, Bože, nade všemi,
aby jim pohledy roztaly,
aby hůl starci nebrali,
nekradli lidem rodnou zemi.

Ke světlu, lásce, čistotě,
do svého lůna přesvatého,
Nejvyšší vládce světa všeho,
vrať zase duše zbloudilé!

На чэшскую пераклала Францішка Сокалава

## 28 ЧЭРВЕНЯ 2004 ГОДА

Гэта лёсам пасланая
Ласка Тварца,
За якую душа
Вечна кленчыць гатова.
Ў Вечным Горадзе
З вуснаў Святога Айца,
Як з нябёсаў,
Пачуць беларускае слова.

Шмат забудзецца,
Счэзне, зніцее, міне.
А да скону запомніцца
Абавязкова –
Папа Рымскі
Добраслаўляе мяне.
І ў Яго як свая
Беларуская мова.

*2006*

## 28 GIUGNO 2004

A star in ginocchio è pronto
L'animo mio
Per il favore che
Il cielo mi ha mandato.
Nella Città Eterna
Dalle labbra di Padre
Come dal cielo
Sentire il bielorusso.

Tanto si scorderà
Sparirà, sfuggirà, passerà
Ma resterà in memoria
Senz'altro
Il Santissimo Padre
Mi benedice
Nel bielorusso come
In madrelingua.

На італьянскую пераклала Кацярына Івановіч

# ТРЫПЦІХ ЧЫРВОНАГА КАСЦЁЛА

*Айцу Уладзіславу Завальнюку*

I

**Чырвоны касцёл**

З Чырвоным касцёлам на «ты»
Вятры,
Што лятуць з Бэтлеему.
І рупіць прачыстаму небу
Дзяліць з ім святло мілаты.

Гасподзь яго верніцы ў сон
Паслаў
Як абраз летуценны.
Імёны Сымона й Алены
Вяльмуе прарочысты кон.

Бажэе ў вяках небадол.
І душы жагнае трывога.
У цемначы тлуму людскога
Світае Чырвоны касцёл...

II

**Не згінаючыся...**

Нарог нашай памяці
Мусіць араць
Аблогу зніклівасці
Ў высілках лютых.
Каб прывіднай радасці
Ўслед пазіраць,
Прыходзім у стомлены свет
У пакутах.

Ля зорак спагадлівых
Грэецца лёс,
Для душ нашых звіць
Намагаецца путы.
Крыжовы шлях,
Што пракладваў Хрыстос,
Нанова для кожнага
Значаць пакуты.

І кожны зможа
Сябе знайсці,
Мець спадзеў,
Што Госпадам будзе пачуты,
Калі ён здолее
Ў гэтым жыцці
Прайсці, не згінаючыся,
Праз пакуты...

III
**Нябёсы веры**

Нябёсы веры
Трымаюць свет.
Знявер'е горбіцца валунамі.
Зямныя дні,
Як вясновы цвет,
Спадаюць,
Каб паўтарыцца снамі.

Нябёсы веры
У вышыню
Кіруюць годна
Думкі й пагляды.
І зорным зернем
Поўніць сяўню
Світанню рупліваму рады.

Вачэе мудрасць.
І слепне зло.
У хаце споведнай –
Насцеж дзверы.
І апранаюць душу ў святло –
Каб не азябла –
Нябёсы веры...

*2006*

## THE TRIPTYCH OF THE RED CHURCH

I
THE RED CHURCH

The winds that blow from Bethlehem
Are familiar
With the Red Church.
The pure sky is in search
How to share its grace with them.

The Lord sent the believers straight
To sleep
Like a pensive icon.
The names of Alena and Symon
Are honoured by prophetic Fate.

The skyline becomes holy with years,
Anxiety crosses the souls with its mark.
The Red Church shows through the dark
Of the people's chaos...

II
WITHOUT BENDING

The plough-share of our memory
Has to plough
The wasteland of extinction
In severe efforts.
To follow the steps of visionary joy,
We come to this weary world
In torments.

Fate is warming itself
Near the sympathetic stars,
It is trying to bind our souls
With fetters.
The way to Calvary,
That was made by Christ,
Again means to everyone
Torments.

Every man will be able
To find his way.
And he is full of hope
That God will hear his prayers,
If he, during his lifetime,
Strives and manages
To endure, without bending,
All the torments.

## III
## THE HEAVENS OF FAITH

The Heavens of Faith
Support the world.
Disbelief stoops like a boulder.
Our days on Earth,
Like spring blossoms, have curled
Later to drop,
And again to revive in daydreams.

The Heavens of Faith
Send their views and thoughts
With dignity
To the heights.
They are glad to fill in
The dawn's baskets
With star-like seeds.

The wisdom is recovering its sight,
And the evil is growing blind.
In the house of confessions
The door is always open wide.
The soul is dressed in some kind
Of light, lest it should be chilly,
By the Heavens of Faith.

## КАСЦЕЛЬНЫ ЗВОН

*Шунічы Ямашыта*

Ад жаху пякельнага
У Нагасакі
Час аніяк
Не мог далічыцца дзён.
Разгублены задыяк
Свае пераблытаў знакі.
Апраменены небасхон
Сцяўся і анямеў.
Гэта Гасподні гнеў
Паўтарыў
Над зняверанным светам
Касцельны звон,
Які адзін ацалеў
З усяго, што жыло і трывала
Тут.
Каб клікаць на Страшны Суд.
Каб нагадваць, што розум
Быць мусіць цвярозым.
Бо з апрамецця пакліканы,
Атам
Робіцца катам
Заклятым....

*2006*

## CHURCH CHIMES

From the hellish terror
In Nagasaki
Time-insomniac
Could not count all the days.
The embarassed Zodiac
Had confounded its signs.

The overturned skyline
Shrank away and grew numb –
That was the Lord's wrath
Which repeated
The church chimes
That had survived
From all that once lived and lasted
Here.
To summon to the Doomsday,
To remind that the mind
Ought to be sound and sober.
Because, called out from the hell,
The atom
Is becoming a sworn
Executioner-phantom.

## ZVON Z NAGASAKI

Od těch pekelných hrůz
v Nagasaki
čas už dále
nepočítá dny.
Zvěrokruh zmatený
si plete svoje znaky.
Obzor se rozsvítil,
ve křeči oněměv.
A Hospodinův hněv
zas bezbožnému světu ohlašuje
zvon kostelní,
jediný ze všeho a všech,
kterému bylo dáno zkáze uniknout,
aby zval všechny na Poslední soud
a varoval,
že dar rozumu byl lidem dán,
aby byl ovládán.
Neboť ten atom,
lidmi z pekel přivolaný,
může být potom
jejich zapřísáhlým katem
nečekaným...

На чэшскую пераклала Францішка Сокалава

教会の鐘

山下俊一に

長崎の
地獄の業火の後で
時間はもう
日々を数えることはできない。
十二宮は狂い乱れ
星座をとり違う。
被ばくした地平が
縮こまって声を失う。
神の怒りが
信仰なき世界に
幾度となく打ち鳴らす、
この地に
生きて在りしものすべてのうち

教会の鐘を打ち鳴らす。
最後の審判に召しだすため。
健全であるはずの理性を
思い出すため。
地獄から召されて
原子は
仮借なき
死刑を執行する。

## MATER ARTIUM NECESSITAS

*Генадзю Мацуру*

Маці ўсіх мастацтваў – неабходнасць.
Неабходнасць рупіцца,
Каб жыць.
Неабходнасць змусіць верагоднасць
Да задумы плён прываражыць.
Неабходнасць звыклае з'іначыць,
Прыкарміць святлом,
Як птушак, дні.
У падкове
Смех вясёлкі бачыць,
Чуць у слове
Крокі цішыні.
Сцежка да раскутасці крывая.
Лёс здаўна
Скупы ў сваёй дзяльбе.
Мастака па-над сабой трымае
Неабходнасць выказаць сябе...

*2006*

## MATER ARTIUM NECESSITAS

The Mother of all arts is necessity.
It makes great efforts
To survive.
Necessity can force probability
To make a cherished dream alive.

Necessity can change the habitual flow –
It will feed our days,
Like birds, with light.
In a horseshoe
It can see a rainbow,
And in a word,
It can hear the quiet might.

The path to freedom charges a high price.
Fate has always been
Stingy to share things from the shelf.
Necessity demands an artist's sacrifice,
If he is eager to express himself.

## АПОРА

*Пятру Васючэнку*

Ад сэнсу маючы ключы,
З мілосцю мудрасць спалучалі
Шляхетнейшыя палачане,
Харобрайшыя крывічы.
Аблогу цемры аручы,
Карчы валілі без адхлання
Разважлівыя палачане,
Даверлівыя крывічы.
...Насуперак чужой начы
Вы наша нашчыце світанне,
Галіністыя палачане,
Рэліктавыя крывічы...

*2006*

## THE SUPPORT

The noblest people Polachans,
The bravest of the Kryvichans,
Have never been lazy or senseless,
They combined wisdom and kindness.

The sensible people Polachans,
The most trustful Kryvichans,
In rooting out stumps were restless,
As well as in ploughing the siege of darkness.

You, rich in relatives, Polachans,
You, suriving strong Kryvichans,
In spite of cold nights you are awake
For us to draw nearer the day-break.

## НЯБАЧНЫ...

Не магу
Ад сябе адагнаць тугу –
Сваячку бедаў і ведаў.
А тут яшчэ
Сабака суседаў
На ланцугу
Ёкатам зябкім якоча,
Тугой са мной
Падзяліцца хоча.
А мне і сваёй даволі.
Смялей, суседзе, брашы.
Можа, зробіцца
Весялей душы.

Нябачны ланцуг у волі...

*2006*

## INVISIBLE...

I cannot
Drive away my sad thought –
It's a sister of knowledge and troubles.
And a neighbor's dog
On a chain doubles
Inexpressible sorrow
By its yelping
As if asking me
For some helping.
But all my attempts are in vain.
Come on, my dear neighbour, do bark.
It may take you away
From the dark.

Freedom is on an invisible chain...

На англійскую пераклала Вольга Гапеева

## ЯК ПА СУХОМУ...

Дзень, як сын дачаканы, падрос.
Ціша стому вярнула дадому.
І ступаў малады Хрыстос
Па вадзе, як па сухому.

Тыя, што над вадой
І ў вадзе,
Ўсе нямелі ў нябесным здзіве,
Ведалі,
Гэта Сейбіт ідзе
Сеяць душы
На горкай ніве.

Досвітак загараўся і гас.
І рабіліся блізкімі далі.
Хвалі ўрэшце дагналі час
І Хрыстовы сляды захавалі.

Ростань выкне вініць успамін.
У сустрэчы сцежка крывая.

Калі Госпаду верыш, як Сын,
Дык цябе і вада трымае...

*24 лютага 2007 г., рэанімацыя*

## AS IF IT WAS LAND...

The day, like the long-waited son, had grown.
The quiet had returned fatigue, and
Young Christ was walking alone
On the water, as if it was land.

The people above and
In the water
Stood dumb in heavenly surprise,
They knew
Souls would be sown by the Sower
On the sad cornfield
Under the skies.

The dawn broke out and then died out.
And the distant expanses became close.
The waves caught up with the time, no doubt,
And kept the footsteps of Christ safe.

Parting blames memoir for what it has done.
The path of the meeting is crooked.

If you have faith in the Lord, like the Son,
Even by water you will be supported...

## COME SULL'ASCIUTTO

La giornata si allungò
La stanchezza tornò a casa
Cristo giovane camminò
Sulle acque – sembrava strada.

Tutti quelli
attorno a lui
tacquero:
che stupore celeste!
Seppero:
sparse le anime Lui
su quel campo
non fertile, triste.

La distanza si avvicinò
Nacque e morì l'aurora
Ecco quell'onda che arrivò
Serbando le orme del Salvatore.

All'incrocio appari tu
I ricordi non danno tregua
Ma c'è Gesù con la sua virtù
E cammini sull' acqua tranquillo.

На італьянскую пераклала Надзея Кайроні

## COMME S'IL MARCHAIT PAR TERRE

Le jour a grandi comme un fils désiré.
L'aube s'allumait et s'éteignait à son temps.
Le silence a fait revenir la fatigue chez elle.
Devenaient proches les lointains.

Le jeune Jésus sur l'eau marchait.
Les ondes ont rattrapé enfin l'heure.
Comme s'il marchait par terre sous le ciel.
Elles ont caché les traces du Fils du Seigneur.

Ceux qui étaient au-dessus
Le carrefour accuse la mémoire.
Et dans l'eau
Le sentier des rendez-vous est tortueux.

Devenaient muets d'étonnement ,
Ils comprenaient
Si tu crois à Dieu comme son Fils croit
Que c'était le Semeur
L'eau te tient sur son plateau brumeux.
Qui allait semer les âmes
Sur un triste champ.

## ШЧЫРАСЦЬ

*Але Сакалоўскай*

За шчырасць
Толькі жарсць адна
Шчырэйшая
На гэтым свеце.
Жыццё нагбом –
І піць да дна!
Каб быць
У лёса на прыкмеце.

Згубіцца
Ў зманлівым жыцці,
Не чуць нічога
І не бачыць.
Пасля
Сябе ў сабе знайсці
І жарсці
Шчырасцю аддзячыць.

На неадступныя гады
Звяртаць увагу
Не жадае,
Бо пані Шчырасць
Заўсягды
І гожая і маладая!

*15 лютага 2007*

## CANDOUR

Only passion
Is more sincere
Than sincerity
In this awful life.
We're in declining years –
Drink to the dregs. You hear?
To be noticed
By the fate which is rife.

To get lost
In this tricky life,
Neither hear
Nor see anything.
Later
To find yourself in strife
And to thank passion
For everything.

She doesn't wish
To pay attention
To persistent years,
'Cause Lady Candour
Is always young,
Her beauty moves to tears.

На англійскую пераклала Алена Таболіч

## OFFENHERZIGKEIT

In dieser Welt ist
Nur die Leidenschaft
Am offenherzigsten.

Das Leben ist wie
Ein geneigtes Glas –
Man muss es
Bis zur Neige trinken!
Dann kann das Schicksal
Uns überall erblicken.

Man fühlt sich immer
Im trügerischen Leben
Ganz schnell verloren,
Und auch nichts sehen
Und auch nichts hören.

Dann muss man sich
In sich selbst mal finden
Und der Leidenschaft,
Wie es sich gehört,
Von ganzem Herzen danken.

Die unentwegten Jahre
Wünscht die Offenherzigkeit
Ganz und gar nicht zu beachten,
Denn man hat sie nach wie vor
Jung und geeignet zu betrachten.

## CORDIALITÉ

Sur cette terre
Il n’y a que la cruauté
Se retrouver après
Qui est plus sincère
En soi que la cordialité.
Et remercier cordialement
Boire la vie
La cruauté hideuse.
Jusqu’à la lie !
Etre noté
Elle ne fait pas attention
Par la destiné.
Aux années
Pressantes
Puisque la Cordialité en personne
Se perdre
Est une belle et jeune passante.
Dans une vie trompeuse,
Ne rien sentir,
Ni ne voir.

## ПЫТАННЕ

*сабе*

Каму патрэбны мае радкі,
Мой шэпт салодкі,
Мой лямант горкі?
Прыцьмелі зоркі,
Прыселі ўзгоркі.
Зямлёй зрабіліся землякі.

Адно рака забыцця цячэ,
А дно глыбее ў яе штохвіліны.
Лёс абяцаў мне
Даць мёд чмяліны,
Які ніхто не спытаў яшчэ.

І травы й кветкі ўсе дацвілі.
Зніцелі цені
Цемры ў дагоду.
Тым і жыву,
Што чакаю мёду.
Чаму ж злянелі мае чмялі?..

*2007*

## A QUESTION

*to myself*

Who needs my lines of poetry,
My delicate whispers,
My bitter wailings?
The stars have mouldered,
The hills have lowered,
My friends have turned to dust.

Only the river of oblivion keeps running,
And the bottom is growing deeper.
The Fate promised
To give me a bumblebee's honey,
That nobody has yet asked for.

Herbs and flowers have withered
Shadows have gone away
To flatter the darkness.
I am still living and
Waiting for honey.
Why have bumblebees grown so lazy?

На англійскую пераклала Алена Таболіч

# МАМІНА СЛОВА

*І на пачатку Слова было,*
*І слова было ад Мамы.*

Маміна слова
Мне свет гадавала.
Анёл далікатны самы
Браў слова маміна пад крыло,
Каб на яго
Ні дажджынкі не ўпала.

Мамiным словам
Малюся й хварэю,
Мамiным словам
Баюся й смялею.
Мамiным словам
Жыву!

*2007*

## MOTHER'S WORD

*In the beginning there was a Word,*
*And there was a word from Mother.*

Mother's word
Taught me to weep and to sing.
The most delicate angel
Took Mother's word under the wing
Lest no drop of rain
Could fall on it.

With Mother's word
I pray and suffer from pain.
With Mother's word
I get stupid and sane.
With Mother's word
I keep on living!

На англійскую пераклала Алена Таболіч

## МОВА КАМЯНЁЎ

З усіх забытых
І замоўклых моў
Трывае толькі
Мова камянёў.

Яна яднае
Змрок і чысціню.
На ёй стагоддзі
Думаюць глыбінна.
На мове камянёў
Упершыню
Загаварыла ўпартая лавіна,

Каб счысціць
З ранішняй зямлі датла
Праклён прадоння
І людское смецце.

Спачатку
Мова камянёў была.
Пасля –
Маўчанне ў стомленым Сусвеце.

*2008*

## THE TONGUE OF STONES

From all forgotten,
Now silent tongues,
Only those of stones
Are alive, though not young.

They unite
All that is light and dark.
Ages have thought in them,
Their thoughts are deep and blanch.
The tongues of stones
Were the first mark
Of the obstinate avalanche.

To clear off
The dawning earth's bones
The human rubbish
And the chasm's curse,

First there was
A tongue of stones.
Later –
Silence in the worn-out Universe.

На англійскую пераклала Алена Таболіч

## ТАКСАМА...

На пні спілаванай яліны,
Амаль заімшэлы, сяджу.
Плывуць успаміны.
Маўчаць аблачыны.
Спякота чакае дажджу.

Не хоча прамень забывацца,
Што быў нядаўна агнём.

...І гэта таксама праца –
Паціху рабіцца пнём...

*2008*

**PURE...**

Sto seduto sull'abete segato
Quasi fossilizzato pure io.
Veleggiano ricordi.
Tacciono nuvole.
Il caldo aspetta la pioggia.
Il raggio non vuole scordarsi
Che era da poco fuoco.
....Pure questo è un lavoro
A poco diventare un ceppo.

***

Я забыўся,
Як бульба цвіце
Безнадзейнадаверлівым цветам.
Як Пярун,
Развітаўшыся з летам,
Кленчыць кожнай зялёнай вярсце.

Я прыглух у чужой тлумаце.
Цішыня
Мне ўжо стала сакрэтам.
Пяўся
Паразумецца са светам,
А забыўся,
Як бульба цвіце...

*2009*

***

I’ve forgotten
How potatoes blossom
With their hopelessly naïve flowers,
How Thunder,
Having said goodbye to the summer showers,
Stands kneeling before each milestone.

I’ve become deaf in this alien chaos.
Silence
Has turned into secret towers.
I tried to learn the world powers,
But forgot how potatoes blossom.

На англійскую пераклала Алена Таболіч

***

Ich hab’ schon seit langem vergessen,
Wie hoffnungslos und vertrauensvoll
Die Kartoffelblüten aussehen.

Wie der Donner, der vom Sommer
Schon Abschied genommen,
Jede grüne Werst anfleht.

Die Stille ist schon für mich
Zum Geheimnis geworden.
Im fremden Heidenlärm hab‘ ich
Mein Gehör halb verloren.

Ich versuchte mal,
Mich mit der Welt zu verstehen.
Dabei habe ich vergessen,
Wie die Kartoffelblüten aussehen.



*З Андрэем Вазнясенскім і Васілём Быкавым. 1996 г.*



*З Сяргеем Панізнікам і Анатолем Вераб'ём.*



*З Карласам Шэрманам. 2001 г.*

***

Люляюць старыя яблыні
Яблыкі,
Як унукаў.

Люляе блізкае неба,
Як унучак,
Зоркі.

Дзядуля-час
Маўчыць і ведае,
Што вечны
Толькі ён...

*2009*

***

The old apple trees are swaying
Apples
Like grandsons.
The nearest skies are swaying
Stars
Like granddaughters.
The Granddad-Time
Is silent – He knows
That only He
Is eternal...

## ПАДЗЯКА

*Айцу Уладзіславу Завальнюку*

Слова пастыра душ людскіх
Запрасіць можа
Нават зоры
Спаднябесіць зямныя прасторы,
Рух ракі
Разняволіць ад крыг.

Рух ракі,
Што цячэ праз вякі,
Наталяючы смагу веры.
Ў хаце вечнасці
Вузкія дзверы
І грахоў цяжкія замкі.

Усятрымцу
За кожны міг,
Поўны ўкоптур
Жыццёвага смаку,
Вучыць,
Як узносіць падзяку,
Слова пастыра душ людскіх.

*2010*

## GRATITUDE

The word from the pastor of human souls
Is able to invite
Even the stars
To raise the globe's expanse to the heavens,
To make rivers
Free of ice floes.
The rivers' flow,
That began ages ago,
Slakes our thirst for faith.
Doors to Eternity
Are narrow. Like sinful foes,
Heavy are their locks.
I wish the pastor
For his every deed
Plenteous pleasures in life
The pastor's word
Teaches us
To send gratitude to God.

На англійскую пераклала Алена Таболіч

## DER DANK

Das Wort des Menschenseelenhirten
Kann sogar die Sterne erbitten,
Den irdischen Raum
In den Himmel zu heben
Und den Lauf eines Flusses
Von Eisschollen zu befrein.

Den Lauf des Flusses,
der in Jahrhunderten fließt
und den Glaubensdurst stillt.
Im Hause der Ewigkeit
Sind alle Türen schmal
Und der Sünden Schlösser
Sind auch sehr schwer.

Wie man den Dank dem Allmächtigen
In den Himmel heben kann
Für jeden Augenblick,
der vom Lebensgeschmack
Ganz überfüllet ist.
All das lehrt das Wort
Des Menschenseelenhirten.



*Злева направа: Гай Пікарда, Лёля Міхалюк, а. Аляксандр Надсан, Рыгор Барадулін, Вера Рыч, Вальдэмар Калінін. Лондан, Бібліятэка Францішка Скарыны. 1998 г.*



*З Ганадам Чарказянам і Валянцінам Тарасам. 2003 г.*



*З Хізры Асадулаевым. 2008 г.*

***

Толькі калі пішу,
Дыхаю і жыву я.
Слухаючы душу,
Лечу сваю галаву,
Зношаную,
Сівую.

Раю пачуць святло
Думкам –
Заспанным совам.
Адно баюся,
Каб не было
Сорамна
Перад словам...

*2010*

***

Ce n'est que quand j'écris
Que je respire et vis.
Ma tête fatiguée,
Je la guéris
En écoutant
Mon âme.

A mes pensées –
Chouettes endormies. –
Je conseille de sentir la lueur.
Avoir honte
Devant la parole,
J'en ai peur...

***

Песня пеўня.
Серп маладзічка.
Годная шляхцянка
Брукаванка.
Тая ж
Тумановая фіранка.
Гулкая гамонка малатка.

Болей да спадобы
Малатку
Дах даладжваць,
А не дамавіну.
П’ю,
Пакуль не выпрастаю спіну,
Роднае паветра па глытку...

*2010*

***

Songs of the cock,
The sickle of the moon.
The worthy ladylike
Cobbled street.
The curtain,
Veiled with mist.
The resonant voice of a hammer.

The hammer
Would rather
Repair a roof
Than make a coffin.
I drink
My native air sip by sip
Until I quit this world.

## ЛЯ ГРУБКІ

Прысмерак
З вакон не зводзіць вачэй.
Прыпамінамі
Грэюцца выпадкі.
Каб з палону
Ўцячы хутчэй,
Дровы ў грубцы
Гараць навыперадкі.

Распранаецца цішыня.
Дым-начлежнік
Аж душыцца пыхаю.
У расчуленага агня
Барада гарачая
Дыхае...

*2010*

**NEAR THE STOVE**

Twilight
Is staring at the windows.
Happenings
Are being warmed by memories.
To escape from prison,
As soon as possible,
Birch logs in the stove
Are burning. Who is quicker?

The calm is taking off its veil.
The visitor-smoke
With arrogance is choking.
The hot beard
Of the excited fire
Is breathing...

## МАЛІТОЎНАЯ ПРОСЬБА ВАЛЯНЦІНЫ

Існы і ўвысі і доле,
Анёле,
Хай твае багавейныя крылы
Атуляць
Замроеныя небасхілы
Босай душы.
Цёплым снегам
Прыцерушы
Балючыя раздарожжы.
Хай прыцьмеецца
Позірк варожы.
Хай, як нядзеля святая,
Надзея світае.
Не пакідай без апекі
Жыццёвы сон.
Даверлівасць дзён
Не аддавай
У прыгон небяспекі
Ніколі.
Просьбу маю пачуй,
Анёле.

*2010*

## VALIANTSINA’S PRAYER

Dear Angel,
Living in Heaven’s cradle,
Let your blessed wings
Shroud and save
The pensive strings
Of my poor soul.
Cover with snow
Which will warm and console
My painful days and ways.
Let my enemies’ glance
No longer hostile stay.
Let my hope, like Holy Sunday,
Start dawning today.
Never leave without care
Dreams of my life,
Never give my naïve days
To dangers of serfdom that scare.
Do please hear my request,
Dear Angel!

На англійскую пераклала Алена Таболіч

## VALJANZINAS GEBETBITTE

Wahrhaft bist du, mein Engel,
In dem Himmel und auf Erden.
Mögen deine göttlichen Flügel
Das träumerische Himmelsgewölbe
Der barfüßigen Seele ergreifen.
Bestreue mit warmem Schnee
Leidende Scheidewege.
Möge der feindliche Blick
ein wenig crlöschen.
Möge die Hoffnung,
wie der heilige Sonntag,
Wieder taghell werden.
Lass nicht ohne Obhut
Den Traum des Lebens.
Lass die Zutraulichkeit der Tage
Nie in der Unfreiheit der Gefahr.
Erhöre meine Bitte,
mein Engel.

На нямецкую пераклаў Васіль Ермаловіч



*На XXXIX сесіі Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. 1984 г.*



*На ўручэнні вышэйшай узнагароды Латвіі ордэна Трох Зорак. 1998 г.*



*З чытачамі. 90-я гады*

***

Азяблы вецер
У чыстым полі
Шукае
Цяплейшую долю.
А доля,
І гэта засведчыць крыніца,
Не мае сама
Да каго прытуліцца...

*2011*

***

Un vent gelé
En ras campagne
Cherchait un sort meilleur.
Et le sort,
La source vous en témoigne,
N'avait personne
Chez qui se réfugier
A cette heure.

***

Крыж
Памкненнямі ўпёрся ў неба.
Раскінуў рукі
Абсяг абхапіць.

Непрыкметна ў зямлю ўрастае,
Мройліва спадзеючыся
Зноў зашаптаць лістамі...

*2012*

***

La croix
Aspire au ciel.
Elle déploie ses ailes
Pour embrasser l’espace.

Imperceptiblement
Elle s’enracine,
Rêveuse, en espérant
Entendre chuchoter ses feuilles
Encore longtemps.

***

Усё паўтараецца на зямлі.
Руплівасць корміць
Галодную стому.
Няўтульнае самае –
Гэта калі
Ты больш не патрэбны
Сабе самому...

*2012*

***

Tout se répète sur terre .
Le souci nourrit
La fatigue affamée.
Le pire
C’est quand
Tu es inutile
A toi – même...

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Той край
Не проста край зямлі,
А цэнтр Сусвету.
Там некалі мяне знайшлі,
І дату гэту
На камені сівы груган
Накрэсліў дзюбай.
Там песціў цішыню туман,
Як перад згубай.
На лічбы
Там загадваў нуль,
Яго якая?
Там цень збянтэжаны
Дасюль
Мяне чакае...

*2012*

## DEDICATION

That land,
That unusual land on Earth,
Is the centre of my universe.
There, I was found years ago,
And a grey raven
Scrawled the date of my birth
With its beak on the stone.
As if before a loss on woe
There peace was babied by mist.
The zero would like to know
What number was next
On the list.
There, a shadow, chary and wary,
Is still
Waiting for me...

На англійскую пераклала Алена Таболіч

***

Глухою, неразбуджанаю пушчаю
Спакусы атачаюць на зямлі.
Душа ўзнікае зоркаю відушчаю.
Грахі дымяць чарней, чым вугалі.

Каб вераломнасцю не аскароміцца,
Каб ад балота здрады адысці,
Павінна помніць пост душа-паломніца
І светлай да Ўсявышняга ісці...

*2013*

***

Dans des forêts épaisses ensommeillées
S’installent sur terre des tentations.
En étoile voyante l’âme disparaît.
Les péchés fument plus noirs que le charbon.

Pour ne pas être félonne,
Pour quitter le marais stagnant de trahison,
L’âme doit observer le jeûne
Et partir éclairée vers le très Haut.

***

Бясконцасць
Векавечыцца ў жыцці.
Бяздомнай,
Ісціна блукае ў свеце.
Знайсці, каб страціць,
Страціць, каб знайсці.
Балюча
Вернасць давярае мэце...

*2013*

***

L’infini
Est éternel dans la vie.
La vérité vagabonde
Sans feu ni lieu
Dans le monde.
Trouver pour perdre,
Perdre pour trouver.
La fidélité
Est en difficulté
Avec la raison.

***

Агонь глядзіць на дрэвы –
Бачыць дровы.
Адлезе ў снезе
Сніцца крыгалом.
На хутары маленства
Дрэмлюць совы.
Вятрак пагрэўся ў смак
З адным крылом.

Я цішыню
Даверу крыгалому.
Сівому ветраку
Падам руку.
Знянацкаму,
Дам тэлеграму грому,
Каб не спалохаў
Сонную раку.

*2013*

***

Le feu regarde les arbres –
Mais il voit du bois.
C’est d’un débacle que le dégel
Rêve sous la neige.
Dans le village de mon enfance
Sommeillent des hiboux blancs.
Un moulin à une aile
S’est réchauffé à son aise
Au débacle mourant.

Je vais confier le silence.
Et je tendrai ma main
Au vieux et grés moulin.
Je vais envoyer un télégramme-éclair
Au brusque tonnerre
Pour qu’il ne fasse pas peur
Au fleuve rêveur.

***

Ты вярнула мяне з забыцця,
Утрапёная Ала.
Непаўторных такіх
У зямнога жыцця
Засталося да здзіву мала.
Мне сустрэць цябе
Пашанцавала.

P.S
Хай яшчэ
Пачакае куцця...

*15 лютага 2013*

***

You have brought me back from oblivion,
You, passionate Ala,
In this world
Souls like you, Ala,
Are surprisingly few.
I am lucky
To have met you, Ala.

P.S.
Let a funeral repast
Wait for me...

***

Mi hai tornato da smemoratezza
Appassionata Ala.
Nel viaggio terreno
Così irrepetibili
Sono rimaste poche.
Beato io che t'ho
incontrata.

P.S. Mi aspetti ancora
La kutia.

***

Du gewannst mich, angebetete Ala,
Aus Vergessenheit wieder.
Auf Erden sind solche Einmaligen
Erstaunlich wenig geblieben.
Ich hatte Glück im Leben,
Dich einmal zu treffen.

P.S. Möge der Heilige Abend
noch warten...

***

Ma passionnée Ala,
C’est grâce à toi
Que je suis sorti
De l’oubli.
Il y a peu de pareilles à toi
Dans cette vie.
Quelle chance
De t’avoir rencontrée.

P.S. Que le repas funéraire attende
Mon décès.



*З унучкай Дамінікай і жонкай Валянцінай. 2009 г.*



*З землякамі. 90-я гады*

***

Жыць як апошнім днём,
Адужаўшы знямогу.
Патушаным агнём
Свяціць сабе дарогу.

Дарогу, што вядзе
Ў даўняе зніканне,
У плыткае пытанне,
Паром вяртання
Дзе?..

*2013*

***

To live as if the last day
Has come after prostration.
To dimly light my own way
With dead fire vibration.

The way
That leads towards
The bygone fading,
The taking-me-home ferry
I wonder,
Where it is?..

## МАЛЬБА

Неба – трывалая столь.
Марна стараецца люць.
Госпад!
Ачалавеч мой боль,
Свойскі мой страх збязлюдзь!

*22 лютага 2014 г.*

## ENTREATY

The sky is a solid ceiling.
The fury's efforts are vain.
Oh Lord!
Humanify my suffering,
And make me fearless again!

## PRIÈRE

Le ciel est un solide plafond.
En vain la cruauté sue sang et eau.
Seigneur!
Rends humaine ma douleur,
Efface ma peur devant la mort.

На французскую пераклала Ніна Дзябольская

Хай у далоні пляскаюць рэкі...
*Псальм 97:8*

На даланях у рэкаў
Няма віны,
Рэкі нічога нікому не вінны.
На даланях у рэкаў чаўны,
На даланях у чаўноў
Дамавіны.

Дамавіны ў далонях
Няволяць час,
У рэкаў з далоняў
Сплываюць аблокі.
З далоняў поймаў,
Адбыўшы папас,
Узлятае смутак глыбокі.

І калі ганец прынясе
Дасвеццю радасныя навіны,
У далоні пляскаць усе
Будуць
Не таму, што павінны.

Хай у долоні плещуть ріки
*Псальма 97:8*

На долонях ріки немає вини.
Ріка нічого нікому не винна.
На долонях ріки човни,
На долонях човнів – домовини.

Домовини в долонях неволять час.
З долонів заплави,
На яких його час пас,
Глибокий смуток злітає.

І коли принесуть гінці
Світанню веселі новини,
У долоні плескатимуть усі
Не тому, що повинні.

Няўжо не ўрымсцяцца беззаконнікі,
якія народ мой ядуць, быццам хлеб?
*Псальм 13:4*

Прыхадні разяваюць галодны рот,
Раскашуецца распуста й песта.
Як жытні хлеб,
Усе ядуць мой народ,
А ў дзяжы падыходзіць
Вясёлае цеста.

І з цеста пячэцца трывалы хлеб,
Якому на абрусах вельмавацца.
Снапы малоціць чужацкі цэп.
Хлеб спажывае халодная праца.
Ды чужакоў аднойчы змяце
Вецер цярпення маўклівы,
Бо дужы.
І ўзыдзе
Наш каравай на куце,
Асвеціць нашыя сасмяглыя душы.

Невже не вгамуються ті, хто чинить беззаконня,
хто народ мій їсть, як хліб?
*Псальма 13:4*

Хижацький, чужацький рот
Не стуляється, розбещений.
Їдять вони, як хліб, наш народ,
Хліб, спечений в нашій печі.

З веселого тіста веселий хліб
На обрусі б нашім пишався.
Але в нашім полі молотить сніп
Їхня холодна праця.

Колись хижаків-чужаків зметуть
Вітри мовчазні, терпливі, бо дужі.
І зійде наш хліб, і посяде наш кут,
І осяє наші зболені души.

Бо ў смерці няма пра Цябе памятання:
у магіле хто Цябе славіць будзе?
*Псальм 6:6*

Слаўлю Цябе
І жыву я Табой,
Госпад,
А смерці гэта няміла.
Толькі не можа
Вечны спакой
Даць мне сырая магіла.

Твой неспакой
Не пакіне мяне,
Ён у душы не загіне.
Твой неспакой
Цішыню прыхіне,
Жыціме ў мёртвай даліне.

І дамавіны глухая турма
Страхам душу не стрымае.
Будзе душа мая
Славіць сама
Госпада,
Нават нямая.

Бо в смерті нема пам’ятання про тебе,
хто ж славитиме тебе в домовині?
*Псальма 6:6*

Славлю тебе я, живу тобою.
Але смерті теє немиле.
Проте вічного супокою
Не дасть мені вогка могила.

Господи, твій неспокій мене
Не покине, в душі не загине.
Тишу смерті він сколихне
І в смертній долині.

Не скує домовина-тюрма
Страхом мою душу.
Душа тебе славитиме сама,
Славитиме, навіть німа,
Глуха й невидюща.

Высахла ад маркоты вока маё,
пастарэла яно праз маіх ворагаў.
*Псальм 6:8*

Бачыць далей маладое вока,
Вока старое глядзіць глыбей.
Ранняя вестка, як тая сарока,
З лесу хутчэй ляціць да дзвярэй.

Позняя вестка, як тая варона,
Глуха чарнее на голым суку.
Поўніцца вока старое бяссонна
Смуткам,
Як поўня на скразняку.

Высахнуць цяжка воку,
Як мору,
Толькі калі высыхае яно,
Здасца прадонным
Галоднаму гору,
Ціхаму небу пакажацца дно.

Висохло з горя око моє,
Постаріло воно з-за моїх ворогів.
*Псальма 6:8*

Молоде
Бачить далі око.
Глибше
Бачить око старе.
Рання звістка, мов та сорока,
З лісу вмить домчить до дверей.

Звістка пізня, мов та ворона,
Глухо чорніє на голій сосні.
Повниться око старе безсонням,
Наче повня в пустелі нічний.

Око сохне довго, як море.
Та коли висохне врешт і воно,
Прірву побачить голодне горе.
Тихому небу відкриється дно.

Вычарпалася ў скрусе жыццё маё і
леты мае ў стагнотах...
*Псальм 30:11*

Прыгоршчамі маладзіка й веташка
І даланёю поўні
Вычэрпвае дні мае скрухі рука,
Дапаўшы да апошняе схоўні.

Вычэрпвае,
Як з чаўна ваду,
Вычэрпвае й дно выскрабае.
Я следам за ценямі дзён іду.
Вярнуць іх надзея слабая.

Спяшаюцца цені,
Знікаюць яны,
Не ведаючы ляноты.
І застаюцца са мною адны
Скруха мая ды стагноты.

Вичерпалося в скрусі життя моє
і роки мої в стогоні.
*Псальма 30:11*

Пригорщами молодика
І долонею повні
Вичерпує дні мої скрухи рука
Уже з останньої сховні.

Вичерпує до самого дна
І дно вишкрібає.
Іду я за тінню дня,
Тінню, вже ледве бачною.

Квапиться тінь, поспішає вона,
Не знаючи стоми.
І зостається зі мною сама
Скруха моя і стогін.

Дзень дню перадае слова, і ноч
ночы адкрывае веды.
*Псальм 18:3*

Ноч з галавы,
А дзень жыве з вачэй,
Ноч грэшна бавіць час,
А дзень пацешна.
Ноч думае,
А дзень сабе хутчэй
Стараецца ўсё выгаварыць
Спешна.

Дзень перадаць
Наступніку свайму
Спяшае недамоўленае слова,
Сэнс грэецца ля зорак
І таму
На долы абніжаецца часова.

Як ні шапчы,
Як крычма ні крычы, –
Сэнс рэдка адгукаецца на словы.
І веды ноч перадае начы,
А ў ведаў зірк
Прыхмарана суровы.

Як не сляпы,
Той зірк убачыш ты.
Калі й сляпы,
Адчуеш зірк душою.
Відушчым зробішся ад віднаты,
І станецца сваім табе чужое.

День дневі переказує слово, і ніч
ночі відкриває віди.
*Псальма 18:3*

Ніч з голови живе.
День живиться із віч.
Ніч – темний гріх.
А ніч – ясная втіха.
Таємну, довгу думу дума ніч,
День виговорюється спіхом.

Наступникові квапиться свому
Недоговорене договорити.
Сенс гріється побіля зір. У тьму,
На землю сенс спускається лиш зрідка.

Сенс, живучи біля високих зір,
Нечасто озивається на слово.
Ніч ночі відкриває віди. Зір
Тих видів – хмарний і не многомовний.

Як не сліпий, зір відів бачиш ти,
Якщо сліпий, його душею чуєш.
Видющим робишся од видноти.
І вже нема світів для тебе чужих.

Ненавіджу шаноўцаў
марных ідалаў...
*Псальм 30:7*

Шаноўцы марных ідалаў,
Яны
Шануюць больш сябе
Ды свой дастатак.
І гневу халастыя перуны
Абрынуць любяць
На астатні статак.

На тых,
Што не паспелі дапаўзці,
Каб з ідалавых жалабоў
Напіцца.
У масць лыч да лыча,
Поўсць да паўсці.
Хвалу ўздаюць
Лявіца ды правіца.

Растануць ідалы,
Як тая мга,
І зменяць хваласпеў на момант
Плачы.
І ўжо да новых ідалаў чарга
Цягнуцца будзе,
Быццам хвост сабачы.

Ненавиджу шановців
марних ідолів.
*Псальма 30:7*

Шановці марних ідолів, вони
Шанують перш себе і свій достаток.
І вергнуть гніву холості громи
Перш не на себе, а на решту стада.

На тих, хто не потовпився
За ними –
З ідолових жолобів напитися.
Спішать – до рила рило, повсть до повсті –
Колонами. Хвалу йому приносять
Лівиця і правиця.

Своєму ідолові. А розтане, мов юга,
То хвалоспів на хвилю змінять плачі.
До чергового ідола черга
Потягнеться,
Неначе хвіст собачий.

Яліны – пад жытло буслам...
*Псальм 103:17*

Яліны –
Зялёныя скініі,
Прыстанак прысталых крокаў.
Нябёсы на стрэхі ім скінулі
Буслоў,
Як акрайкі аблокаў.

Сціха́ адхінаюцца клёкатам
І цішаю клямчацца дзверы.
Зямным і нябесным клопатам
Буслы
У ялін у даверы.

І позірку ўроіцца смелае:
Прыняўшы дасвецця палоны,
Стаіць,
Ад чакання здранцвелая,
Яліна –
Як бусел зялёны...

Ялини – житло буслам.
*Псальма 103:17*

Ялини мов скінії.
Притулок блукальців-днів.
Небеса їм на стріхи скинули
Буслів.

Відчиняють двері і вікна.
Хазяйновито кльокаючи.
Буслам ялини довірили
Земний і небесний клопіт.

А самі, а самі вони,
Прийнявши полон весни,
У чеканні зніміли.
Ялини – зелені буслі.

На ўкраінскую пераклала Мая Львовіч

З улоння дзянніцы падобнае
да расы Тваё нараджэнне.
*Псальм 109:3*

І за расу, і за слязу нічога
Чысцейшага няма.
Раса сама
Нагорнецца на вока Пана Бога,
Не разбурыўшы воблік абраза.

І на зямлі, далёкая ад бруду,
Раса зайздросціць
Зерню на сяўбе.
Падлеглая паўторанаму цуду,
Расінка
Сонца носіць у сабе.

Раса й краса
З нічога не ўзнікае.
Лёс крочыць пеша.
Воз сябе вязе.
І радасць,
Як рачулка гаваркая,
Смяецца і ў расінцы,
І ў слязе.

Вераадступніка чакае згуба.
Самапрысуд –
Як брытва ў два лязы.
Пяшчоціцца ў расінцы
Сонцу люба,
І ўтульна роспачы
На дне слязы.

Подібне до роси народження Твоє.
*Псальма 109:3*

Роса й сльоза. Чистішого нічого
Нема. Сама навернеться сльоза,
Роса не вернеться на око Пана Бога,
Не оскверникши Божого лиця.

Роса позаздрить одному – єдино –
Роса позаздрить зерню на сівбі.
Під владою повтореного дива
Росина сонце носить у собі.

Ніщо з нічого вирости не може.
І пішки доля йде. Нема кому везти.
І радість, ніби говіркий струмочок,
Сміється у росині і в сльозі.

Хай на відступника чекає згуба,
Хай будуть зрадники покарані усі.
І у росині променеві любо,
І розпачеві затишно в сльозі.

Пастаў над імі бязбожнага,
і д’ябал хай стане праваруч яго.
*Псальм 108:6*

Над тымі,
Што назваліся людзямі
І рохкаюць галодна ля карыта,
Пастаў бязбожнага,
Няхай яны
Плывуць ракою забыцця ладдзямі,
Няхай спяшаюцца парнакапыта
Падставіць хілы хіб пад бізуны.

І праваруч ад самаўладцца-хама
Самога д’ябла ў чорным ахінале
Пастаў,
Няхай пасведчыць чарадзе
І светласць хама,
І сваю таксама.
Каб дзякуй і за кратамі казалі
Бязбожніку,
Што ў шчасце іх вядзе.

А тое шчасце –
Мешанка густая
І рэдкая,
А тое шчасце ў спрыце,
У звадах за харчы перамагчы.
Абы не хутка ўбачыць
Дно ў карыце.
А дасць мароз,
Як адарваць лычы?

Постав над ними безбожного,
і диявол хай стане праворуч.
*Псальма 108:6*

Постав безбожного над нібито-людьми,
Що, рохкаючи, пнуться до корита.
Пусти їх поміж річки береги.
Рікою забуття нехай вони
Пливуть собі. Нехай парнокопито
Наввипередки мчать під батоги.

Праворуч хама, їхнього пак пана,
Диявол стане хай у чорнім запиналі,
Нехай засвідчить їм і доведе
І світлість хама, і свою так само.
Аби спасибі і за ґратами казали
Руці, яка до щастя їх веде.

А щастя – мішанка густа.
А щастя – сприт
Братам і родичам дорогу перекрити,
Дорватися самому до корита.
Бува, мороз ударить. Що робити?
Таж від корита не відірвеш рил?

Пройдзе над ім вецер, і няма
яго, і мейсца ягонае ўжо не
пазнае яго.
*Псальм 102:16*

Век чалавечы –
Як снег на галінцы,
Дзень чалавечы –
Як помах крыла.
Толькі за зёлкай
Паспеў нахіліцца –
Выпрастаць спіну
Труна памагла.

Кожнаму хочацца
Ліха аб’ехаць.
Лёс залагодзіць,
Чым нельга і льга.
Раніца хмар наахапчыць
На вехаць.
Пачырванее за вечар смуга.

Дол прыхарошыцца
Травамі гожа.
Сподзеў і страх –
Чалавеку свае.
Вецер дыхне – і няма,
І яго ўжо
Мейсца ягонае не пазнае.

Пройде над ним вітер, і нема його,
І місце його не впізнає його.
*Псальма 102:16*

Вік людський –
Наче сніг на гілці.
День людський –
Наче помах крила.
Щойно за квіткою нахилився –
Випростатися труна помогла.

Усяк приміг би, багно об'їхав.
Усяк би – чим мав і чим не мав –
Долю власкавив. Доля – туман.

А всяк – приміг би, об'їхав лихо.
Долина трави плекає гожі,
А син людський сподівання своє.
Вітер дихне – і нема. І його вже
Місце його не впізнає.

А тыя, што нас паланілі,
песняў ад нас патрабавалі,
а нашыя прыгнятальнікі –
весялосці...
*Псальм 136-3*

Заваёўнікам трэба песняў
Ад нас,
Прыгнятальнікам – весялосці.
Толькі песня, яна –
Не вясельны кутас,
Каб дрыжэць у застольнае млосці.

Песня вольная
Вольную мае душу,
Не пяецца ў няволі ніколі.
Прастагнаць заваёўнікам
Можа імшу,
Зачасаць на магіле ім колле.

Весялосць захлынецца ад смеху,
Калі
Прыгнятальнік навек захлынецца.
І ўздыхнецца з палёгкаю
Роднай зямлі –
Аж ад радасці дол скаланецца.

> А ті, що нас полонили,
> пісень від нас вимагали,
> А наші гнобителі веселощів.
> *Псальма 136:3*

Завойовникові од нас
Веселої пісні треба.
Але пісня –
Не весільний кутас,
Аби трепетати трепетно.

На вільну лиш кладеться струну,
Не співається в підневіллі.
Простогнати може йому відхідну,
Затесати кіл на могилі.

Похлинуться веселощі сміхом, коли
Він навік захлинеться.
І зітхнеться рідній землі –
Аж від щастя здригнеться небо.

Не сплю і сяджу, як
адзінокая птушка на даху.
*Псальм 101:8*

Адзінокая птушка на даху –
Дах вартуе,
Ці дах яе
І трымае, й бароніць
Ад страху.
Птушка прыцемкаў
Сумна пяе.

Адзінокая птушка на даху –
Ад падумкі той аднае,
Што крылу не стае размаху,
У пляніцу сябе аддае.

Адзінокая птушка на даху –
Забываецца песні свае.
За халодную апранаху
Вечару свой цень прадае.

Не сплю і сиджу
на даху, мов самотня птаха.
*Псальма 101:8*

Самотня птаха на даху.
Чи для неї дах, чи для даху вона –
Захист, оборона від страху?
Вечірня птаха сумно співа.

Самотня птаха на даху
Від самої думки, що не стає
Крилам її вільного маху,
Птаха у бран себе віддає.

Самотня птаха на даху
Забула мелодію і слова.
Вечорові пісню продавши,
Самотня птаха вже не співа.

Уздыманне рук маіх –
як ахвяра вячэрняя.
*Псальм 140:2*

Вячэрнюю ахвяру прыношу –
Уздымаю рукі свае,
Яны
Трымаюць яшчэ сырую пакошу
З лугоў раскайнасці і віны.

Вячэрнюю прыношу ахвяру –
Узношу рукі свае,
Яны
Трымаюць, як ношу,
Цёмную хмару
Неўсвядомленае маны.

Не плоцячы вечнаму смутку
Мыты,
Прашу спагады ў наступнага дня.
Малюся,
Самім сабою забыты.
А можа, ўспомніць мяне
Вышыня?

Здіймаю руки до неба –
мов приношу офіру вечірню.
*Псальма 140:2*

Вечірню офіру приношу –
До неба руки здіймаю свої.
Тримаю ношу – вологу покошу
З лук із гріха і вини.

Вечірня офіра. Руки здіймаю.
До неба здіймаю руки мої.
Ношу тримаю – важку хмару
Неусвідомленої мани.

Не плачу я мита вічному смуткові.
Ласки прошу в наступного дня.
Молюся, сам собою забутий.
Може згадає мене вишина.

На ўкраінскую пераклала Мая Львовіч

І просяць хлеба з руінаў сваіх...
*Псальм 108:10*

Жабраваць па сваіх руінах –
Тое,
Што сябраваць з дварамі.
У забыўлівых прыпамінах
Кленчыць неіснуючай браме.

Жабраваць па сваіх руінах –
Тое,
Што сябраваць з вірамі.
Па абразах ісці й па кпінах
І гавець у разбураным храме.

Вандраваць па сваіх руінах –
Тое,
Што сябраваць з вятрамі,
Што нясуць на далёкіх спінах
Прах дзяржаваў
З рабамі й царамі...

I благають хліба з руїн своїх.
*Псальма 108:10*

Жебрати на своїх руїнах –
Те саме, що дружити з дворами
У забутливих спогадах-тінях.
Те саме, що схиляти коліна
Перед давно зниклою брамою.

Жебрати на своїх руїнах –
Те саме, що дружити з вирами,
По образах іти, по кпинах
І говіти в розкиданім храмі.

Жебрати на своїх руїнах –
Те саме, що дружити з вітрами,
Які несуть на далеких спинах
Прах держав з рабами й царями...

Дні чалавечыя – як трава...
*Псальм 102:15*

А веку таго –
Ад касы да касы,
Таму так спяшаецца раскашавацца
Надзея ў руні на каласы,
Надзея ў рэха на галасы.
Траве застаецца адно –
Хваляванца.

Травой зарастуць
І разлогі, й лугі.
Адскочыць атава
Спаткацца з касою.
Як восень, пажоўкне
Трава ад тугі.
Успыхнуць зялёнааблочна
Стагі,
Загарыцца расе
Паўтарыцца красою.

Дні людські мов трава.
*Псальма 102:15*

А віку того
Від коси до коси,
То поспішає розкошувати.
Сподівається рунь на колоски,
Сподіваються луни на голоси.

Траві залишається хвилюватися,
Затрав'яніють луги-береги.
Відскочить отава на зустріч с косою.
Трава, наче осінь, пожовкне з журби.
Спалахнуть, мов зелені хмарки, стоги.
Загориться росі повторитись красою.

Хай памножацца смуткі ў тых,
што цякуць да бога чужога...
*Псальм 15:4*

Пілнаваціся кожны мусіць
Роднага Бога,
Пілнаваціся кожны мусіць
Роднай зямлі.
Не цяплее душа
Ля цяпельца чужога,
Каласіцца туга
На чужой араллі.

Толькі ў роднага Бога
І шчырасць, і ласка.
Родны Бог – родны бацька,
Бог чужы – як айчым.
Дома суха і ў багне,
На чужыне й на ўзгор'і гразка.
Некалькі ў ваднаго
Не бывае айчын.

Хай множаться смутки в того,
хто пливе до бога чужого.
*Псальма 15:4*

Хай пильнується кожен свого Бога,
Хай пильнується кожен своєї землі.
Не зігріється серце біля вогню чужого.
Лише туга
На чужій забуяє ріллі.

Лише в рідного Бога
Щирість и ласка.
Рідний Бог – рідний батько.
Чужий Бог – то вітчим.
На своїм і болоті сухо,
На чужій і горі грязько.
Один мати не може
Кілька Вітчин.

Каб не заснуў я сном смерці...
*Псальм 12:4*

А сон жыцця
Кароткі, як жыццё.
Сон у жыцця –
Трывожны, клапатлівы.
І чалавек – капрызнае дзіця –
Ў кароткім сне
Спакойны ды шчаслівы.

У смерці сон
Даўжэйшы за яе,
Сон беспрабудны,
Цёмны, страхавіты.
Ніколі ён назад не аддае,
Хто зябкай павітухаю спавіты.

І, кватарант жыцця,
Пакуль жыве,
Ён ад жыцця
У сон жывы ўцякае,
Каб спадабацца
Смерці-удаве.
І спіць жыццё.
А іншы сон чакае.

Щоб не заснув я сном смерті.
*Псальма 12:4*

А сон життя
Короткий, як життя.
Непогамовна, вередлива,
У сні життя
Людина, як дитя,
Спокійна і щаслива.

А смерті сон довший за Саму.
Сон темний, страховитий.
Не збудиться ніколи з того сну,
Хто смертію сповитий.

І мешканець життя
Тікає од яви,
У сон живий тікає.
Аби сподобатися смерті-удові.
І спить життя. А інший сон чекає.

Дабрашчасны, хто возьме і заб’е
немаўлятак тваіх аб камень!
*Псальм 136:10*

Хай сабе ён і ворагаў –
Чэрап дзіцячы,
Ён – маленькае неба,
Дзе небасхіл няпэўны
Трымаецца на радасным плачы,
Чэрап будучага пастуха
Ці царэўны.

Хай жа камень праклёну
Мяккай падушкай стане
З летуценнага пер’я
Залётнае аблачыны.
Хай аб наканаванні
Дзіця папярэдзяць здані,
Хай здымуць камень з сэрца
У змрочнай прычыны!

Блажен, хто візьме і розіб’є
немовляток твоїх об камінь.
*Псальма 136:10*

Хай собі і дитя ворога...
Але череп дитячий –
Маленьке небо,
Де небосхил нерівний
Тримається
На радіснім плачі,
Череп
Майбутнього пастуха
Чи царівни.

Хай би камінь стався пір’їною
З легкої мрії-хмарини,
Хай би дитину
Застерегли привиди,
Хай би з серця знявся тягар
Похмурій причині!

Народ, якога я не ведаў,
служыць мне...
*Псальм 17:44*

Там,
Дзе паншчаны гаспадары,
Пасуцца выслужнікі табунамі.
Ім лёгка чужых
Называць панамі,
Аднолькава ім
Ці ў хляве, ці ў дварах.

Ім роднага бацьку
Замяніць айчым,
Якога палюбяць
За скібку хлеба.
Па звычцы
Яшчэ патурбуе патрэба
Назвацца народам.
Але якім?

Народ, якого я не відав,
служить мені.
*Псальма 17:44*

Там, де господаря знищено, там
Пасуться вислужники табунами.
Їм просто – чужих називати панами.
Однаково, хто. Аби їсти їм дав.

Їм рідного батька замінить вітчим.
За скибочку хліба любити будуть.
Потреба, за звичкою, потурбує
Народом назватися.
Лиш яким?

Чалавек падобны дыханню...
*Псальм 143:4*

Бог уздыхнуў
Над стварэннем слабым.
Бог уздыхнуў –
І ўдыхнуў дыханне.
Дым, як туман,
І туман, як дым,
Папераблыталіся ў тое ранне.

Першая недзе звінела аброць.
Конь неаб’езджаны
Цешыўся з волі.
І, чалавека пакінуўшы доле,
Сумна
Падаўся ў неба Гасподзь...

*1997–1998*

Людина подібна до подиху.
*Псальма 143:4*

Бог зітхнув над створінням слабким.
Бог зітхнув – і вдихнув дихання.
Дим, мов туман, і туман, мов дим,
Перемішалися того рання.

Десь перша дзвеніла оброть.
Кінь необ'їжджений тішився з волі.
І, людину покинувши долі,
Сумно подавсь у небо Господь.



*На аўдыенцыі ў Папы Рымскага Яна Паўла II у Ватыкане 28 чэрвеня 2004 г.*



*З ксяндзом Уладзіславам Завальнюком у Вушацкім касцёле.
22 ліпеня 2009 г.*



*У Стакгольме з Алай Сакалоўскай. Красавік 2006 г.*

*
Пачынаецца дарога з парога.
Якую ні выбірай –
Усе дарогі вядуць да Бога.

*
All your roads begin from the doorstep.
Whichever you choose,
It will lead you to the Lord.

*
У сэрцы ці ўзімку, ці ўвесну
Богу й маці няцесна.

*
Either in winter, or in the fall
To Mother and God, your heart has no wall.

*
Кожны ўзводзіць
Сваю Вавілонскую вежу
У дакор бязмежжу.

*
Every man is the builder
Of his own Babylonian Tower,
To reproach the boundless power.

*

Бог задумаў птаства, відаць,
Каб пра неба душы нагадаць.

*

God has created some birds (larks and ravens)
To remind our soul of the Heavens.

*

Няволя цвеліць ахвоту.
Цяжэй за ўсё трымаць у сабе
Злосць і пяшчоту.

*

Necessity chafes our desire.
It is very difficult to hide
Kindness and ire.

*

Лужына – акіяну радня,
Ад якой адмовілася глыбіня.

*

The ocean’s relative is a pool,
But the depth denies it, as a rule.

*

Мулкая дужа
Клетка сям'і,
Збітая з рэбраў мужа.

*

The family's cage,
Made from the Man's ribs,
Is too trashy.

*

Знелюбелая жонка – халодная печ.
Конь скапыціўся. А дровы ў лесе...

*

A disgusting wife is like a cold stove.
The horse is stumbling and the wood is in the forest...

*

Зямное жыццё – для душы астрог.
Панаваць над душой
Вольны толькі Бог.

*

Life on earth is a prison for the soul.
Only the Lord is free
To dominate the soul.

*

Бог апошнім падзеліцца ў кожнай долі
І пра гэта не напомніць ніколі.

*

The Lord will give you the last drop of fortune,
And in His reminders He'll never importune.

*

Белую аблачынку вішні,
Здаецца, выдыхнуў Усявышні.

*

The Almighty seems to have breathed out
The cherry trees' white cloud.

*

Дагэтуль сніцца начлег.
Хата маміна...
Падушка – як цёплы снег...

*

Until now I dream of the night
In my Mother's hut –
The pillow like snow, warm and light.

*

З аблачыны жыта нябёсам
Усміхаецца горка
Васілёк – залётная зорка.

*

From the cloud of corn, a cornflower,
A fleeting star smiles and smiles
Bitterly and sadly at the skies.

*

Чалавек не памірае,
Зямныя адбыўшы дні,
Ён вяртаецца да цішыні...

*

A man does not pass away
After his earthly life's caprice,
He returns to solitude and peace...

*

Ад смерці ратуйся,
Але рыхтуйся!

*

"Try to avoid death,
But be ready", the proverb says.

*

Жыць –
Значыць Богу аддаваць даўгі
За ўвесь свой род, пакутамі даўгі.

*

To live
Means to pay the Lord all your kin's debts,
Though their life was full of sufferings and threats.

*

А час не затрымаць
Ні днямі, ні вякамі.
Бяжыць, спяшаецца і – не знікае...

*

Neither days nor ages
Can slow down the time –
It keeps on flying and cares not a dime...

*

Не перажывеш нікога злосцю.
Перамога чыніцца мілосцю.

*

You can't outlive anyone when in anger.
A victory is gained only by mercy.

*

Ясней па часе робіцца ўсім –
Сяброў у старасці, як валасоў:
Ці дужа рэдка, ці гола зусім...

*

In the course of time it's clear to all:
We have as many friends as hairs in old age –
Either very few or none at all...

*

Мы – толькі пыл на далані пустыні.
Здзьмухнецца пыл –
І даланя астыне...

*

We are like dust on the palm of the desert.
The palm will cool off,
As soon as the dust is blown off...

*

У чыстым небе спаміж вершалінак
Павук шчырэе без адпачынку,
Каб выткаць хоць ценькую аблачынку.

*

The spider, hard-working and proud,
In the clear skies, at the top of the tree,
Is trying to weave a delicate cloud.

*

Гэты гром і ночы прысніцца.
А пакуль у капытковым слядку
Хай адстоіцца навальніца.

*

The night will see thunder in its dream.
In the meanwhile, let the shower of rain
Settle in the hoof's footprint.

*

Мароз цвікі забівае без малатка.
Дарога санная грэецца ў лесе.
Змяняецца ўсмешка маладзіка.

*

The frost is driving nails with no hammer.
The sleigh road is warming itself in the woods.
The smile of the half moon changes into clamor.

*

Босыя на снезе вароны.
Хоць ты кожную ў валёнкі абуй.
Аж самому ў ногі сцюдзёна.

*

There are bare-pawed crows on the snow.
If only they could put on felt boots!
Even my feet are getting cold, oh no!

*

Лілея на лісту, як на плыту.
Здаецца, што нахабнаю рукою
Касу ў вясёлкі зараз распляту.

*

The lily on a leaf feels just like on a raft.
I wish to unplait the rainbow's plait,
While doing my insolent handicraft.

*

Сакавік хварсіць белакутаса.
Хата маміна стаіць адна –
Толькі пад прыглядам Валапаса.

*

March shows off with its white trusses,
My Mother's hut is desolate.
Only Boötes takes care of it.

*

Туман вечарніцу кволіць у рукаве,
Каштан высока трымае свечкі –
Пярсцёнак згубіла вясна ў траве.

*

The mist is slaving the evening star in its sleeve,
The chestnut is holding its candles high.
The spring has lost its ring in the grass. How naive!

*

Цыбата ў забытай хаце
Ісці па ўспамінах,
Як басанож па гаці...

*

It's hard to carry the memory's load
In the forlorn hut. The same as to walk barefoot
Along the brushwood road.

*

Ніткай, трошкі таўсцейшай за гук,
Човен мой разам з возерам хоча
Прывязаць да хмурынкі павук.

*

The spider is eager to tie
My bark and the lake to a cloud
By a thread, a bit thicker than a sound.

*

Позна прыйшоў я сказаць прабач.
За сасной, недалёка ад мамы,
Селіцца на магільніку свежы плач.

*

I've come to beg forgiveness.
Not far from my Mother, behind the pine tree,
Is settling down a wailing, her new gravemate.

*

Галодны досвітак снедае рэхам,
Пацягваючыся ў сне.
Бяздомны сабака грэецца брэхам.

*

Stretching itself and slice sleeping,
The hungry dawn is having an echo for breakfast.
A stray dog is warming itself with barking.

*

Гэта ўсцешыць вока і Прароку:
Гронка бэзу, як грудка цнатлівая,
Вырываецца з кофтачкі змроку.

*

The sight will console even the Prophet:
A bunch of lilacs, like a virgin's little breast,
Is coming loose from its spring outfit.

*

Дажджу зялёнаму хочацца ліцца –
Рассекла купчастую хмару лістоў
Бярэзіны белая бліскавіца.

*

The green rain is eager to keep on falling.
The curly cloud of green leaves was cut apart
By the white birch's lightning.

*

Ма-ма –
У двух паўтораных гуках
Свет увесь у радасці й муках.

*

Mam-my.
In two repeated sounds
The world with joys and tortures resounds.

*

І сцяжыны сыноўняга лёсу
Ціха ў гэтым свеце пралеглі,
Як маміны чорныя косы.

*

And the pathways of the son's fate
Have quietly run in this world,
Like Mother's long black plaits.

*

Задумаўшы ля перуна абвіцца,
Агністая сястра халоднай думкі –
Згарае нецярплівая бліскавіца.

*

The fiery sister of a cooling thought ,
Having plans to embrace the thunder,
The lightning is impatient and taut.

*

Звышні дыктоўку гатовую
Ўсім адну і тую дыктуе.
Ды кожны па-свойму яе занатоўвае.

*

The Most High dictates the same dictation
To all of us,
But we take notes according to our vocation.

*

Ад млявай асалоды стогнучы,
Язык на ветры
Сушыць вогнішча.

*

Moaning with languid pleasure,
The wind is working as a skillful dryer
For the sharp tongue of the fire.

*

Сам сябе даганяць спрабуе свет.
І, паўтораны ў сваіх нашчадках,
Чалавек самотны, як Сусвет.

*

The world is trying to catch up with itself.
Man, reduplicated in his successors,
Feels very lonely, like the Universe.

*

Вецер нешта рабіне на вуха
Гэткае прашаптаў,
Аж зачырванелася маладзюсенькая...

*

The wind whispered something
Into the ear of the rowan,
And the young tree went red in the face...

*

Радасці ранішняе ваконца
На гэтым свеце аслепла –
Закацілася мама, як сонца.

*

The morning's window of fun
Has gone blind in this world –
Mother has left, like the sun.

*

Ні ў радасці, ні ў бядзе,
Ні на Страшным Судзе
Не адракуся ад Беларусі.

*

Neither in joy, nor in sorrow,
Nor on the Day of Judgement
I will forswear my Belarus.

*

Я цяпер, як апошні колас.
З самых родных яшчэ засталіся
Бацька Бог ды ад мамы Голас.

*

I am like the last ear of corn now.
Only Father God and my mother's Voice
Of all the kin are still with me.

*

Юда атрымаць рады
Трыццаць срэбранікаў
Па курсе здрады.

*

Иъудайдя хlадуров
Хиса́лъа
Лъабацlада гlарсил шагьи
Хlалихьалъерил багьа́.

*

Мама! Я выйшаў з цябе, а пасля
Ты ўвайшла ў мяне, і жывецьмеш,
Покуль носіць мяне зямля..

*

Баба! Мена гегьиляда ден,
Диб ракlвалъlир еъа мен,
Дилъlи идяй йикlвалъа дунал дена бешдиляс.

*

Чорт у коміне скажа,
Што белая сажа...

*

Тавхани дагlбас шетlан
Гьацlаб идякье къетlан.

*

Яны – пастухі чалавечых сутак:
Уранні – радасць,
Увечары – смутак.

*

Релъада – къоралъер, рагьада – рохел
Релъа – зебу бикка́
Ихьвалъеряйдя.

*

Вечная толькі вечнасць,
А рэшта –
Рэха, і цень, і пярэстае нешта...

*

Даимлъил бикlуда абадайлъlдала;
Лъарчlly, анччу, жlиргъоб, klopklоб–
Гьоб гидабдал – бихxубдала.

*

Прафесіяй рабіць не трэба злосць.
Прафесій іншых
Шмат на свеце ёсць.

*

Хъулухъалъе бебисе бишдил бикьlелъер;
Чамилдя дуналлъя
Хьогьоб ришанхъер.

*

І Верабей чырыкае
Пра нешта сваё
Вялікае.

*

Щакибдалъlел бикlуда индобда,
"Чlири-чlи"-кье басиндоб
Кутакоб пикру.

*

І турма
Не корміць дарма.

*

Туснахъилгвал гьашдада
Инквайдячlе цевегоал.

*

Чую,
Як абрываюцца карані
Ад цішыні глыбіні.

*

Гьекьбай, оделъерилъl
Зантlурилъlигал,
Анлъидайдя гьиншда ратlуда идоар.

*

Ціха з памяці адыходзяць імёны
Дрэў, птушак, сяброў.
Жоўтым робіцца колер зялёны...

*

Цllерабийдя раъанлъla гъадуъалъlигал,
Речеча раххуха, цеб-цеб биккевха:
Рошбадалъl, щакибдалъl,чокъбадилорайл.
Гlачоб жими идя обилъl болъlида.

*

Журба не забывае
Родны край.
А весялосці й на чужыне рай.

*

Бечечийчlе балагья
Гlагароб унщи.
Рохелоа алжан идя гьинге идоарел.

*

Стары –
Тое ж дзіця,
Толькі прагнае да жыцця.

*

Вохаровдя –
Гьовда макlе,
Гlурмихъ иншуб хlенкъер цllикllов.

*

Над мапай шатрую далоні:
Беларусь – лісцінка кляновая,
Якую аб′елі суседскія коні...

*

Мадугьалдилоб хьванил
Гьала къамоб рошиля
Балълъемхвайдя Беларусь.

*

Стыне гарачага лета след.
Зябкі, па-вяснавому вясёлы,
З яблынь зімы аблятае цвет.

*

Бокьидоб къинолъIдя лъалда биссиндя.
Зарагъурил, ххерда гигинел идя,
Цциберол рошбадалъI, регIибадахъа.

*

Жыць – нялёгкая праца.
А куды падацца?

*

ГIурми гегьер – гьеркIам захIмат.
Гьиндирди баъанс?

*

Маладыя толькі
Сонца й мама.
Радасць яшчэ маладая таксама.

*

Гъиндагlаги мичабай –
Милъеклел иля.
Гъошдобда цебелел рохелел идя.

*

А ці смяюцца дзеці
Не ў гэтым свеце?

*

Релъехидала макlи
Цебел дуналлъя?

*

Мы ёсць датуль,
Пакуль жыве пытанне,
Ці ўзнагарода нам жыццё,
Ці пакаранне?

*

Илъlи идя баклвалъа,
Суъалоа жlваб бисилас,
Гlурми сайгъаткьедийдяб,
Гlазабяди беккейдяб?

*

Родны кут на зямлі
Чалавеку даецца на тое,
Каб было куды крыўдзе ісці пехатою.

*

Инсаня тIурáла
Баъанлъа беккоб
МакIвайдя Аллашул гьаб унщя букIун.

*
У кожнага грахі свае,
Душа за цела не адказвае.
І нават вецер гнёзды ўе.

*
Chacun a ses péchés, pis encore,
L'âme ne répond pas pour le corps.
Même le vent construit des nids.

*
Зямля бацькоўская радасцю прывячае.
І ўбачыўшы, як пастарэла радня,
Адчуеш, які ты стары – да адчаю.

*
Le pays natal nous reçoit avec joie.
Ayant vu ses proches vieillis,
On se sent vieux, on est en proie au désespoir.

*
Хлусня раскашуецца, як гаспадыня
У цёплай хаце ў шумлівых шаўках.
А голая праўда на вуліцы стыне.

*
La menterie vit en maîtresse
Dans une maison chaude, vêtue de soie de Perse.
La vérité nue se refroidit dans la rue.

*

Нябёсы чуюць тугу калосся.
Сягоння – гэта згаданае ўчора,
Дзе ўсё, што мелася збыцца, збылося.

*

Le ciel sent la douleur des épis.
Le jour d'hui c'est le jour d'hier revenu
Où tout ce qui devait venir est venu.

*

Жыццё – багажня, час – ручная кладзь.
Душа звыкаць да крыўды пачынае,
Але не звыкне крыўду даравацъ.

*

La vie est une consigne
Pour y mettre notre bagage – le temps.
L'âme s'habitue au mensonge pourtant
Mais elle ne s'habitue pas à le pardonner.

*

Могуць вымераць карані
Глыбіню цішыні.
Цішыня глыбіні
Можа выслухаць карані.

*

Les racines mesurent
La profondeur du silence.
Le silence de la profondeur
Ecoute les racines en pleurs.

*

Сваю праталіну знойдзе грак.
У ветра кожнага свой вятрак.

*

Chaque freux trouve son chemin.
Chaque vent a son moulin.

*

Рака быцця ў небыццё ўцякае –
Ад жыцця ўцякае.

*

Le fleuve de l'être se jette dans le néant –
Il fuit la vie en courant.

*

Галінка трымае расу навісу –
Баіцца абразіць зямлёй красу.

*

Une branche tient suspendue la rosée
Pour que la terre ne salisse pas sa beauté.

*

А ў каго запытацца наапаслед,
І чаго ты прыходзіў
На гэты свет?

*

A qui demander à la fin des jours
Pourquoi dans ce monde
Ai-je fait mon séjour ?

*

Ні ў зялёны гушчар, ні ў карчы
Ад самога сябе не ўцячы.

*

On ne s'enfuit pas de soi
Ni dans les souches, ni dans le bois.

*

Не адкажа й залева,
Трымаецца дрэва за вецер
Ці вецер за дрэва.

*

Personne ne le dira, même mon gendre :
L'arbre attrape le vent
Ou le vent attrape l'arbre ?

*

Я да скону заручаны з той стараною,
Дзе мама, як зорка,
Стаіць нада мною...

*

Je suis prisonnier du pays
Où ma mère brille comme une étoile
Au-dessus de mon lit.

*

Не зважае трава на равы.
І ў травы свае наравы.

*

L'herbe ne pousse pas dans les fosses.
Même l'herbe a ses moeurs.

*

Часам у недасяжным горы
І нізінам зайздросцяць горы.

*

Aux heures de malheur profond
Les monts envient les dépressions.

*

Колькі важыць душа –
І зорка не ведае,
Якая трымае нябёсы ветлівыя.

*

Même les étoiles
Qui tiennent les cieux accueillants
Ignorent le poids de l'âme.

*

Восеньскі ўзмежак сыры
Жагнаюць крылы сарочыя,
Каб вятры-севяры яго не сурочылі.

*

En automne sur une lisière humide
Les ailes des pies voudraient
Que les vents froids ne les envoûtent pas.

*

Лёс перапялёс.
І шчасце
Не аднае масці.

*

Le sort change.
Même le bonheur
N'est pas toujours de la même couleur.

*

Бог чалавека стварыў,
Каб было,
На кім прымерыць дабро і зло.

*

L'homme par le Dieu a été créé
Pour le bien et le mal lui essayer.

*

Гавеюць вернікі.
Жыруюць душы гіблыя.
Усё на гэтым свеце,
Як у Бібліі...

*

Les fidèles jeûnent sans cesse,
Les âmes perdues éclatent de graisse.
Tout se passe ici
Comme il est écrit dans la Bible.

*

І ў цямніцы ружа расцвітае,
Толькі ўсмешка ўжо ў яе
Не тая.

*

La rose fleurit même en prison,
Mais elle n'y sourit pas de la même façon.

*

Думка просіцца ў ісціны на пастой,
Наблукаўшыся
Па сцежках вякоў сіратой.

*

Après avoir longtemps marché
La pensée demande à la vérité
Où loger.

*

І стагуе бясконцасць
Стагоддзяў стагі,
Каб нябыт анямеў ад зялёнай тугі.

*

Les meules des siècles
Sont mis par l'infini
Pour que le non-être devienne triste.

*

Жывеш не ты –
Жыве твая трывога.
Ты толькі выкнеш да сябе самога.

*

Ce n'est pas toi qui vis –
Mais ton angoisse.
Toi, tu t'habitues à toi-même.

*

Зямля – аралля і аблога.
Зямля – музей усяго былога.

*

La terre – un labourage et un guêret.
La terre est le musée du temps passé.

*

Трывацьме на зямлі каменны век,
Пакуль на сэрцы
Камень носіць чалавек.

*

L'âge de pierre dure sur la terre
Jusqu'à ce que dans son coeur
L'homme porte une pierre.

*

Хто кожны з нас –
Самазабойца ці ахвяра?
Жыццё нам – ласка боская ці кара?

*

Qui est chacun de nous –
Un suicidé ou une victime ?
Notre vie – un châtiment ou une caresse divine ?

*

А ўсё ж цікава:
Ад часу ўцякаем мы
Ці час ад нас уцякае.

*

Voilà ce qui est intéressant :
Le temps court après nous
Ou nous courons après le temps ?

*

Довад адзін
І ў лісіцы й вароны:
Вінаград зялёны...

*

Le corbeau et le renard
Ont le même raisonnement :
Vert est le raisin.

*

Прачынаюся ў клопат.
Баліць галава.
Жыццё працягвае допыт.

*

Mes soucis me réveillent
Et me donnent des maux de tête.
La vie poursuit son enquête.

*

Яшчэ шкадуе сон зярнят сяўніца.
А белую шкарлупіну зімы
Прадзёўбнула ссінелая сініца.

*

Les grains, la semeuse ne veut pas les réveiller.
La mésange bleue a donné son coup de bec
A la coquille de l'hiver.

*

Змрок, як цень распяты кажана,
Засаромеўся абнылакрылы.
Густа дождж шуміць, як збажына.

*

Confuses sont les ténèbres
Pareilles à l'ombre d'une chauve-souris crucifiée
La pluie tombe brillante comme des blés.

*

І ліпень упрочкі збег.
Заснулую ноч халодзіць
Галодны сабачы смех.

*

Le jullet nous a quittés et ne revient.
La nuit endormie est refroidie
Par le rire affamé des chiens.

*

За пазуху поўня лезе.
Журботна вачыма вясёлымі йсці
Птушынай сцяжынай па снезе.

*

Dans le sein du ciel la Lune se cache.
Par les chemins des oiseaux la tristesse marche
De ses yeux gais observant la neige.

*

Ноч – пасланая Богам ісціца.
І пялёсткі сціснуў цюльпан,
Быццам ксты свае, каб пераксціцца.

*

La nuit – une demanderesse envoyée par le Dieu.
La tulipe a serré ses pétales
Pour se signer mieux.

*

А геніяльнасць – проста такое
Незацуглянае самалюбства,
Якое не знойдзе спакою.

*

Le génie – amour-propre sans frein,
Qui ne connaît pas l’état serein.

*

Настрой, як кот па дрэве, ўгору лезе.
Вяртаюць першую зіму ў душу
Аўтографы варон на чыстым снезе.

*

Comme un chat sur l'arbre saute l'humeur.
Les autographes des pies sur la neige pure
Font rentrer dans l'âme le premier hiver.

*

Толькі ў мамы
Самы суровы дакор
І пяшчотнейшы самы.

*

Le reproche de la mère
Est le plus doux et le plus sévère.

*

Старасць – гэта маладосць,
Якая сябе гукае.

*

La vieillesse c'est la jeunesse,
Qui t'appelle sans cesse.

*

За якую правіну ці грэх
Рэха каіцца, аж заікаецца,
Ў поле выбегшы
З-пад зялёных стрэх.

*

De quel péché ou quelle faute,
Sorti dans les champs,
L'écho se répent ?

*

Ад млявай асалоды стогнучы,
Язык на ветры
Сушыць вогнішча.

*

Comme si elle le faisait la première fois
L'aurore essaye le dernier silence
Comme une robe de soie.

*

Глуха.
Цьмее звыкла смутак воўчы.
Завіруха выплакала вочы.

*

Au fin fond de la forêt
L'obscurité s'est faite à la tristesse.
La tempête de neige a pleuré.

*

Чалавек летазлічэнне прыдумаў,
Каб загадваць,
Чый карацейшы век –
Ці свой, ці кумаў?

*

L'homme a inventé le calendrier
Pour deviner quand même
Qui vivra plus longuement –
Son proche ou lui-même ?

*

З жыцця былога,
Як з успаміну,
Да нябеснага Бацькі вяртацца
Сцюдзёна блуднаму сыну.

*

Il n'est plus facile
Pour un enfant prodigue
De revenir au Père céleste.

*

Леў
За жытло не прымае хлеў.

*

Le lion ne vit
Dans une bergerie.

*

Ціха ўкленчы нябёсам
Сваёю віной –
І душа расцвіце кветкаю незямной...

*

Agenouille-toi en silence devant les cieux
Et reconnais tes torts –
L'âme s'épanouira comme une fleur.

*

Журба не забывае
Родны край.
А весялосці й на чужыне рай.

*

L'angoisse n'oublie pas son pays natal.
La gaieté va partout au bal.

*

Варона у дасвецце валюхае.
Па снезе хвост валачэ,
Як шлейф.

*

Le matin le corbeau qui se traîne
A sa queue
Comme une traîne.

*

Усё якраз, як у першы раз
І ў апошні –
Сарока трашчыць,
Дождж ступае на пожні.

*

Tout est comme la première fois
Et la dernière –
La pie jacasse,
La pluie pose ses pieds à terre.

*

Выгнанніку ў няспыннай дарозе
Прысняцца з незабытай старaны
Грак на раллі, сарока на бярозе.

*

L’exilé sur le chemin sans fin
Voit en rêve un freux sur les champs,
Une pie dans un pin de son pays lointain.

*

Лятункі нізіць сонная аблога.
І ў небе зорыцца Птушыны Шлях,
Каб светла йсці было душы да Бога.

*

Le soir les nuages bâillent.
La Voie Lactée brille dans le ciel
Pour que l’âme vers le Dieu aille.

*

У халадоў мяняецца аблічча.
Сама ў сябе хаваецца зіма,
Пакуль яе ручай не заказыча.

*

Les froids changent leurs contours.
L'hiver se cache dans lui-même
Jusqu'à ce que le ruisseau ne le chatouille.

*

Маміна слова, ласка твая без меж.
Толькі ты мяне на зямлі трымаеш
І да мамы мяне павядзеш...

*

La caresse infinie – la parole de ma mère.
C'est elle qui me retient sur cette terre,
C'est elle qui va me porter vers ma mère.

*

На небе зоркі рая́цца і ра́яцца.
На гэтым свеце людзі чужыя.
Як родныя сёстры – Мама і Раніца.

*

Au ciel tant d'étoiles essaiment.
Sur terre des hommes sont étrangers.
Ma mère et l'aurore sont deux soeurs.

*
Арол застаецца арлом
І з адным крылом.

*
Orel orlem zůstává,
i když jedno křídlo má.

*
Шчодрая рука
Толькі ў жабрака.

*
Nejštědřejší ruku
najdeš u žebráků.

*
Пакуль не наб’е сабе добры гуз,
Беларус не ўзгадае,
Што ён – беларус.

*
Teprve s řádnou boulí na hlavě
Bělorus poznává,
že Bělorusem je.

*

Ахвяру й ка́та прымае
Аднолькава
Памяць жывая

*

I ověti, i katani
v paměti živé
zůstanou.

*

Хлусня раскашуецца, як гаспадыня
У цёплай хаце ў шумлівых шаўках.
А голая праўда на вуліцы стыне.

*

Bohatství a přepych lež má tuze ráda.
Milostpaní v teple v hedvábí si chodí.
Zatím venku nahá mrzne holá pravda.

*

Жыццё –
Пазычаны ў вечнасці час
Для нас.

*

Život
je věčností nám pro ten čas
jen zapůjčený
čas.

*

Растаюць паціху на дне душы
Крыўдаў калючыя ледзяшы.

*

Pomalu v duši roztávají
tedy křivd, co se na dně tají.

*

У кожным
Адпаведна яго шчадраце
Бог расце.

*

V každém
se podle jeho štědrosti
Bůh rozhostí.

*

Пакуль сабе не хлушу
І на плячах нашу сваю галаву –
Жыву.

*

Dokavad nelžu sobě sám
a na krku svou hlavu mám.
jsem živý.

*

Пад снегам цярпліва жыве
Зялёны сум па зялёнай траве...

*

Zelená touha po zelené nivě
pod sněhem žije stále trpělivě.

*

Жывучая дужа расада здрады,
Бо гатункуецца
На падваконнях улады.

*

Neobvykle houževnatě
roste sadba zrady
tříděna na parapetech
úřadoven vlády.

# ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

**Барадулін Рыгор Іванавіч**

Et orbi omni / І свету ўсяму

Рэдактары
*Ул. М. Завальнюк,*
*І. І. Лучыц-Федарэц,*
*А. С. Сакалоўская,*
*Ю. В. Стулаў*

Карэктар *М. Ф. Апейка*

Дызайн і макет *Г. І. Мацур*

Камп’ютарны набор
*І. В. Клімава,*
*А. А. Лешчанка,*
*Ёсіко Огава,*
*М. С. Уліна*

Фотаздымкі
*Вячаслава Дамуця,*
*Георгія Ліхтаровіча,*
*Алеся Матафонава,*
*Сяргея Панізьніка,*
*Сяргея Шапрана*
і з архіва
*Рыгора Барадуліна,*
*Алы Сакалоўскай*

Падпісана ў друк 11.01.2016 г. Фармат 70×100 1/16.
Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура Times.
Ум. друк. арк. 54,83. Улік.-выд. арк. 22,1. Тыраж 300 ас.
Замова №2531.

Рымска-Каталіцкая парафія Святога Сымона і Святой Алены.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы і
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў №1/438 ад 3.10.2014 г.
Вул. Савецкая, 15, 220050, г. Мінск.

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Новапрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы і
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/54 ад 25.02.2014.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.